PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ“ 36911

# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 2 (1808) ГОД XXXVI 13 СТУДЗЕНЯ 1991 г. ЦАНА 800 зл. (50 кап.)



## НЕ ПАКІНЕ НАС НАДЗЕЯ

Другое падарожжа ў Ольштын — у палове лістапада 1990. Зноў, як у кастрычніку 1989, — у няўпэўненасць... Дзе знайсці некі куток на месяц часу? Адкуль узяць грошы на запіс?.. Толькі цяпер, у палове снежня, калі хлопцы вярнуліся ў Мінск і калі я пішу гэтыя словы, дакладна ўсведамляю сабе абсяг іхняе адчайнае рашучасці, што чаплялася ўсяго некалькі арыенціраў-спадзяванняў, адным з якіх была і мая асоба. У кастрычніку 1989, калі хлопцы з „Уліса“ прыехалі запісаць свой першы альбом, „Чужаніцу“, сітуацыя была даволі безнадзейная: у хлопцаў ні граша пры душы, адно дамоўленасць з чалавекам у Ольштыне на запіс... Патрабавалася, паводле заходняй меркі, смяхотная сума — недзе дзве з паловай сотні долараў. За такія грошы на Захадзе ніхто не ўпускае ў студыю гуказапісу нават у ролі назіральніка, не тое што музыканта. У мяне тады заставаліся долары з арганізацыйнага фонда конкурсу беларусаведы, што ахвяравала Канадыйскае таварыства „Беларусь“, дакладней кажучы, старшыня таго таварыства Алесь Палескі. Я даў „улісаўцам“ патрэбныя грошы, не кантактуючыся з Алесем... У рэшце рэшт, у мяне было тое-сёе дзеля апраўдання: конкурс для студэнтаў і ліцэістаў быў праведзены, узнагароды ўручаны. З арганізацыйных грошай удалося выдзяліць сціплыя сумы на ўзнагароды ўдзельнікам конкурсу сцэнічнага слова... І дапамагчы „Улісу“... У кастрычніку 1990, калі Алесь Палескі прыехаў на Беласточчыну, я даў яму справаздачу з таго, як распарадзіўся конкурсным фондам. Тое, што гэты фонд дапамог яшчэ і беларускім рок-музыкантам, было для яго прыемнай нечаканасцю. Я, было, заікнуўся пра дапамогу „улісаўцам“ пры запісе наступнага альбома. Я ўжо ведаў, што хлопцам спатрэбіцца крыху больш часу, чымсьці пры „Чужаніцы“. Арыентацыйна назваў суму ў шэсць — шэсць з паловай сотняў. Алесь абяцаў знайсці тыя грошы...

І вось на такія арыенціры рушылі музыканты з „Уліса“ ў лістападзе 1990. Заставалася яшчэ адна істотная справа: дзе ўладкавацца ў Ольштыне? Я параіў хлопцам скантактавацца з Валодзькам Пацам, студэнтам Сельскагаспадарчай акадэміі ў Ольштыне. Валодзя не раз ужо даказаў, што хлопец ён дужа сур'ёзны і аператыўны ў арганізацыйных справах. Гэтым разам было не іначай.

Я пішу пра грошы, арганізацыйныя клопаты і таму падобнае, каб даць хоць невялікае ўяўленне пра тое, што значыць быць беларускім рок-музыкантам на Беларусі сёння. Там папросту ніхто з начальнікаў савецкага „шоў-бізнесу“ не зацікаўлены ў гэтым. Таму, каб нешта дасягнуць, беларускім рокерам даводзіцца адольваць некалькі бар'ераў адразу: татальную абыякавасць арганізаванага на мафійных прынцыпах музычнага асяроддзя (глядзі: „У эфіры гучыць беларускае слова“, „Ніва“, 22 ліпеня 1990 г.), недахоп якаснай гуказапіснай апаратуры, адсутнасць сапраўдных рок-канцэртаў, падрыхтаванай публікі і спонсараў, велізарныя цяжкасці ў наладжванні кантактаў з замежнымі фірмамі гуказапісу, адсутнасць рэкламы і прамоцыі беларускай рок-музыкі. У такіх абставінах Беласточчына явіцца ўсё яшчэ як адзіная кладка з антыбеларускага дрыгвяністага кашмару на другі бераг... На тым другім беразе таксама не ўсё адразу ладзіцца, але няма хоць усёахопнай атмасферы безнадзейнасці.

Я пішу пра „Уліса“, слухаючы касету з новым запісам. Хлопцы працавалі над ім тры тыдні. Тры тыдні цясніліся і начавалі ў невялічкім пакойчыку, спалі ў спальных мяшках проста на падлозе (грошай ледзь хапала на скупаваць харч). Па

(Працяг на стар. 6)




### БЕЛАСТОЦКАЯ ПРЫСЯГА

Не просім ласкі ані злітавання.
Самі мы возьмем лёс нам належны.
Будзем народам, бо айчыну маем,
На век беларускім, свету незалежным.

На памяць продкаў усе даем прысягу,
Не гнуць каленяў у часы трывогі.
Доля нам не пані, за нашу знявагу —
Ганьба і пагарда, хай ратуюць богі!
Крыўдзе не дамося, прэч адгонім ліха.
Пойдзем жа шляхамі да жыцця і славы.
Разам і наперад! Хто сядзіць там ціха?!
Наш штандар высока і трубяць фанфары.
Не просім ласкі ані злітавання.
Самі мы возьмем лёс нам належны.

**Сакрат Яновіч,**
**снежань '90.**

### Я БАЧЫЎ...

Я бачыў кіркут, зраўнаны з зямлёю,
Яўрэйскіх магілак разбітыя таблічы.
Крыжы, прастрэленыя кулямі,
На якіх Хрыстос звісаў перабіты.
Я бачыў цокаль з зоркаю чырвонай,
На якой сплецены серп і молат,
Якая, паўшы пад нікчэмным ударам,
Быццам бараніла сабою мёртвых у магіле.
Для нас сімвалы тыя аднолькавыя былі,
Крыж быў знакам веры, зорка — перамогі.
За перамогу мы Бога прасілі,
Каб нас на чужыне і край вызвалілі.
І я не бачыў, каб хтосьці,
Пражыўшы вайну, ваеннае пекла,
Не спыніў кроку хаця б на хвілінку
І не аддаў паўшым пашаны належнай.
Не бачыў таксама, каб шум свой спыніла
Бяроза, што побач магілы расла,
Каб салаўі песень не спявалі
І рабіна не апраналася ў свае каралі.
І сум вялікі я маю на душы,
Калі пра гэта ўспамінаю,
Нас жа вучылі, што магіла — святая зямля,
Чыіх касцей яна б не скрывала.

**Рышард Бутайла**
Свінавусце, лістапад 1990 г.




— 21 —

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Прыглядаюся Беларускаму народнаму фронту, і выклікае ён у мяне так званыя мешаныя пачуцці. Калі глядзець на ўсю сённяшнюю беларускую рэчаіснасць, дык выразна відаць, што Камуністычная партыя Беларусі і Беларускі народны фронт — гэта дзве крайнасці ў беларускім палітычным пейзажы. Па сутнасці, абедзве яны з'яўляюцца сіламі экстрэмальнымі. Камуністычная партыя Беларусі схільная бачыць у Беларускім народным фронце дзіця імперыялістычных дзяржаў. Беларускі народны фронт трактуе Камуністычную партыю Беларусі як дзіця Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Абедзве гэтыя сілы не разумеюць, а калі і разумеюць, дык не хочуць прызнацца, што Беларускі народны фронт з'яўляецца родным дзіцём Камуністычнай партыі Беларусі, а партыя — роднай маці БФН. Калі б Камуністычная партыя Беларусі не была ў такой ступені, як была ў мінулым і ёсць сёння, нігілістычнай сілай у беларуска-нацыянальным сэнсе, дык не нарадзіўся б Беларускі народны фронт, які з такой сілай падкрэслівае нацыянальна-беларускі момант. Калі гляджу на практыку БНФ, дык паяўляюцца ў мяне супрацьстаўныя пачуцці. Выклікае маё зразуменне і апрабату пасьлядоўнае змаганне БНФ за беларусізацыю Беларусі, за дзяржаўны ранг беларускай мовы, за беларускі характар беларускай асветы і культуры. Выклікае крытыцызм катэгарычнае ўмешванне ў рэлігійныя беларускія справы, а не выклікаюць майго зразумення і падтрымкі наіўныя канцэпцыі БНФ у гаспадарчай галіне. Ідэя Балтыйска-чарнаморскага саюза, у які ўвойдзе Літва, Латвія, Эстонія, Беларусь і Украіна, без Расіі, з'яўляецца, па сутнасці, ідэяй „малога СЭУ", якая паміpae сёння на нашых вачах.

Ідэя Балтыйска-чарнаморскага саюза як бы стараецца адрадзіць Вялікае княства Літоўскае, і думаю, што не мае перад сабой ніякай перспектывы. Балтыйска-чарнаморскі саюз — гэта адгалоссе няўданых, як дагэтуль, польскіх канцэпцый Балтыйскага саюза, у які ўвайшлі б Польшча, Фінляндыя, Швецыя і Нарвегія, або Дунайскага саюза (Польшча, Чэхаславакія, Венгрыя і Аўстрыя). Як вядома, усе названыя вышэй краіны не падтрымалі і, мабыць, не падтрымаюць у найбліжэйшым часе польскую ідэю.

Імкненне БНФ да стварэння Балтыйска-чарнаморскага саюза не можа ўдацца галоўным чынам з тае прычыны, што Літва, Латвія, Эстонія, Беларусь і Украіна знаходзяцца ў аднолькавай (або вельмі падобнай) сітуацыі ў галіне сыравіны і прамысловасці. Не маюць яны дастатковай колькасці нафты, газу, энергіі. Не маюць зусім бавоўны. Літва, Латвія, Эстонія і Беларусь не маюць таксама жалезнай руды і вугалю. Не мае сэнсу гаспадарчы саюз, члены якога ў аднолькавай або падобнай ступені пазбаўлены энергетычных рэсурсаў. У такой сітуацыі думка аб перспектыўным і эфектным існаванні такога саюза з'яўляецца наіўнай і пазбаўленай сэнсу. Забяспечваючы сыравінна-прамысловыя добрыя адносіны з Расіяй, Беларусь павінна пракладваць гаспадарчыя шляхі ў Польшчу, Чэхаславакію, Германію і іншыя еўрапейскія краіны. Нельга сёння замыкацца ў ніякіх цесных структурах, незалежна ад таго, як яны прыгожа называюцца.

Што датычыцца Камуністычнай партыі Беларусі, дык палохае мяне і адкідае яе нацыянальны нігілізм. Тое, што выпісвае яе орган „Политический собеседник", сведчыць адназначна, што многія вядучыя дзеячы гэтай партыі ўсё яшчэ з'яўляюцца прыхільнікамі сталінскага вырашэння нацыянальных пытанняў. У гаспадарчых і эканамічных канцэпцыях КПБ моцна трымаецца таго, што было, гэта значыць, падтрымлівае поўнасцю залежнасць Беларусі ад Расіі.

І гэта яшчэ не ўсё. Аб тым, што мне, як беларусу, не пападаецца ў паставе партыі і БНФ, буду яшчэ гаварыць у найбліжэйшай будучыні. Ці маю права гаварыць аб гэтым, не будучы грамадзянінам БССР? Маю такое права, бо ніхто не аддзеліць мяне ад лёсу маёй нацыі, якая для мяне назаўсёды застанецца роднай маці.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Новы прэм'ер-міністр Ян Кшыштоф Бялецкі** ў сваім сеймавым экспазе заявіў, што новы ўрад пачне працу, каб фармаваць народжаную свабоду і выразна акрэсліць яе палітычны і эканамічны твар. Сцвердзіў, што перамены, якія адбыліся да гэтай пары, не прынеслі канчатковых вынікаў, а многія істотныя справы асталіся нявырашанымі. Яго мара: „каб не страцілі надзею тыя, у каго яна была, і каб тыя, у каго яе не было, маглі яе займець". Гаворачы аб замежнай палітыцы прэм'ер-міністр сказаў між іншым: „Добрае суседства будзе нас спалучаць як з Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, так і з рэспублікамі, асабліва з тымі, якія з намі мяжуюць: з Расійскай Федэрацыяй, Украінай і Беларуссю. Падтрымоўваць будзем стасункі ў гэтых двух напрамках: Саюз як цэласць і рэспублікі, не ўмешваючыся ва ўнутраныя перамены за нашай усходняй граніцай. Імкнемся заключыць з СССР новы трактат, які нармаваў бы сукупнасць нашых стасункаў. Хочам давесці да пазітыўнага выніку пачатыя ўжо перагаворы наконт пагаднення аб вывадзе савецкіх войск, якія знаходзяцца на нашай тэрыторыі".

**На Куццю** (6 студзеня) Беластоцкае радыёвяшчанне ўпершыню правяло прамую трансляцыю багаслужбы з царквы св. Мікалая ў Беластоку.

**Айцец Аляксандр Хіліманюк з Беластока** стаў лаўрэатам узнагароды імя Брата Альберта. Атрымаў яе за харытатыўную дзейнасць у галіне апекі над дзецьмі з Беларусі, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі.

**Вернікі з прыхода св. Мікалая ў Беластоку** адправілі транспарт падарункаў для дзяцей з прыхода св. Уладзіміра ў Гродне.

**30 дзяцей з Хойнікаў** (горад распаложаны ў зоне забруджанай радыяцыяй пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС) прыехала на адпачынак у Беласток. Арганізатарам пабыўкі з'яўляецца Праваслаўная царква.

**БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ СУСТРЭЧЫ**

**27 студзеня ў 11 гадзін 30 хвілін на вул. Кілінскага 6 (Беластоцкі аддзел Саюза польскіх пісьменнікаў) пачнецца сустрэча з паэтэсай Надзеяй Артымовіч (новы зборнік якой — „Сезон у белых пейзажах" — выйшаў на днях). Запрашаем.**

*Прыемна нам паведаміць таксама, што „Белавежа" атрымала першую ўплату на свой рахунак — ад сп. Мікалая Панфілюка (Дубічы Царкоўныя) — 20.000 зл. Дзякуем. Прыхільнікам „Белавежы" напамінаем свой рахунак:* PBK I Oddział Białystok 370406-200107-132 Białoruskie Stowarzyszenie Literackie „Białowieża".

**Управа „Белавежы"**

## Аб'явы

Тэрмінова прадам драўляны двухсямейны дом з майстэрняй і пляц 1100 кв. м у Бельску-Падляшскім, вул. Войска Польскага 28.

Н 1/1

Інфармацыю наконт працы за граніцай і эміграцыі ў ЗША, Аўстралію, Канаду, Новую Зеландыю прапануе: Richard Davies, 2 Mildmay Str., Greenbank, Plymouth, Devon, England.

Н-3/2

## Варшаўскія вечарыны

Штотыднёвыя сустрэчы з цікавымі людзьмі здаўна лічыліся адной з асноўных праяваў дзейнасці Варшаўскага аддзела БГКТ. Так завялося яшчэ ў старым клубе на вул. Сенатарскай і працягваецца гэта на новым месцы, на вул. Старасцінскай, дзе ўжо арганізаваны былі дзесяткі сустрэч, на якіх прысутнічалі сотні людзей. Можна было не толькі многаму навучыцца, але і спаткаць сяброў, пагутарыць. Сёлета такія сяброўскія вечарыны, спалучаныя з дакладамі, праводзіліся пераважна ў сераду, а 18-тай гадзіне.

5 снежня сабраныя ў клубе БГКТ маглі паслухаць цікавыя разважанні літаратурнага крытыка і перакладчыка Земавіта Фадэцкага пра вобраз беларуса ў вачах палякаў. Сам дакладчык паходзіць з Лідчыны, нарадзіўся ў даваенную пару, змалку выхоўваўся ў змешаным, польска-беларускім асяроддзі. Цікавіцца беларускай літаратурай, фальклорам, ведае гісторыю зямлі, якую некаторыя заўпарціліся называць і сёння „Kresy Wschodnie". У гэтай назве якраз і адлюстроўваецца стан ведаў статыстычнага паляка пра Беларусь. Праўда, некаторыя ведаюць, што недзе там была калісьці Літва, але цяпер за ўсходняй мяжой — спрэс Расія.

12 снежня з паклоннікамі сваёй паэтычнае музы спаткаўся Аляксандр Баршчэўскі, які месяцам раней адзначаў сваё 60-годдзе. Навуковец, грамадскі дзеяч, публіцыст і паэт, Аляксандр Баршчэўскі пачаў ад характарыстыкі цяперашніх грамадска-палітычных перамен у нашай частцы свету, потым успамінаў свае маладыя гады і параўноўваў з сітуацыяй цяперашняй моладзі, расказваў гісторыю свайго далучэння да літаратуры і псеўданіму Алесь Барскі, паказваў свой жахлівы почырк, які і сам не заўсёды можа расчытаць. На шчасце, не заўсёды піша так неразборліва, доказам чаго і былі прачытаныя вершы. Пасыпаліся воплескі, былі кветкі і пажаданні багатага плёну на ўсіх нівах, якія ён абсейвае (уключна і з той у родных Бандарах).

У чацвер, 13 снежня, госцем на вул. Старасцінскай быў гісторык з Мінска, прафесар Анатоль Грыцкевіч. Гаварыў ён пра становішча беларускай гістарычнай навукі. Хоць у розных вышэйшых навучальных установах рэспублікі ёсць сотні гісторыкаў, але архівы зачынены і няма ніводнага гістарычнага часопіса. Гэта дазваляе сцвердзіць, што беларуская гістарыяграфія амаль не існуе. Самаахвярная праца лічаных адзінак толькі гэта пацвярджае. Большасць навукоўцаў (80 працэнтаў) займаецца гісторыяй КПСС і вывучэннем дасягненняў камуністычнай пабудовы. Над даўнейшай гісторыяй Беларусі пануе ўсё яшчэ дух абэцэдаршчыны, паводле якога трэба падбіраць факты да канцэпцыі. А канцэпцыя была такая: спрадвечная барацьба беларускага народа супраць польскіх і літоўскіх феадалаў за далучэнне да Расіі. Пра выкарыстанне беларускай мовы ў публікацыях ці ва універсітэцкіх лекцыях няма чаго і казаць. Галоўнай мэтай для гісторыкаў на бліжэйшую будучыню праф. Грыцкевіч лічыць неабходнасць напісаць гісторыю Беларусі для беларусаў і па-беларуску.

**М. В.**

# СССР ПАСЛЯ СССР?

У Савецкім Саюзе вынесены на публічнае абмеркаванне праект новага саюзнага дагавору (старым, у гэтым кантэксце, лічыцца дагавор аб утварэнні СССР з 1922 г.). Праект прадстаўлены Вярхоўнаму Савету СССР прэзідэнтам М. Гарбачовым.

Агульна кажучы, рэспублікам прапануецца добраахвотнае аб'яднанне ў дзяржаўным арганізме, што мае называцца Саюзам Суверэнных Савецкіх Рэспублік (ССCР). Саюзны дагавор уступае ў сілу з моманту яго падпісання (не ўдакладняецца спосаб, якім асобная рэспубліка прымае пастанову аб падпісанні дагавору — рэферэндум?, пастанова рэспубліканскага парламента?). Няясным застаецца вызначэнне членаў новага саюза — ці акрамя 15 удзельнікаў „старога“ дагавору дапускаецца магчымасць уваходу ў новы саюз на роўных правах аўтаномных рэспублік і акругаў, некаторыя з якіх у апошні час заявілі аб сваёй суверэннасці? Няяснай застаецца і аснова суверэннасці членаў-удзельнікаў новага саюза — ці суверэнам з'яўляецца народ (нацыя, што дамінуе ў дадзенай рэспубліцы), ці, можа, рэспубліка як дзяржава? Амаль абсалютна няясным выглядае пытанне аб межах суверэннасці асобнага члена ў гэтай супердзяржаве. Прыгледзьмася бліжэй да структуры ўлады і прынцыпаў пабудовы новага СССР.

Заканадаўчую ўладу ў Саюзе ажыццяўляе Вярхоўны Савет СССР, які распадзяляецца на дзве палаты: Савет Саюза і Савет Нацыянальнасцяў. Савет Саюза фармуецца на падставе прапарцыянальных выбараў па ўсёй саюзнай тэрыторыі, Савет Нацыянальнасцяў — гэта дэлегаты ад прадстаўнічых рэспубліканскіх органаў і нацыянальна-тэрытарыяльных утварэнняў. Поўнасцю выканаўчай улады надзелены Прэзідэнт СССР — ён і галоўнакамандуючы ўзброенымі сіламі, і выказнік замежнай палітыкі Саюза, і кіраўнік Савета Федэрацыі — каардынацыйнага органа дзяржаўнай улады ў дачыненнях Саюз — рэспублікі, ён фармуе і падначалены яму ўрад СССР. Судовая ўлада Саюза — Канстытуцыйны суд, Вярхоўны суд, Гаспадарчы суд, суды ва ўзброеных сілах.

Што ўваходзіць у кампетэнцыі саюзных органаў улады? Менш часу заняў бы адказ на пытанне, што не ўваходзіць у гэтыя кампетэнцыі. Ды ўсё ж такі паспрабуем хоць зболышага пералічыць асноўныя саюзныя паўнамоцтвы: адна саюзная армія, адзін саюзны „КГБ“ і ўсе паслядоўнасці гэтага; адна замежная палітыка; агульнасаюзныя рынак і валюта, агульныя алмазны і залаты фонды; агульная палітыка ў галіне энергетыкі, транспарту, інфарматыкі, ваеннай прамысловасці; супольная сацыяльная палітыка, а таксама і каардынацыя ў галіне культуры і адукацыі. Што яшчэ? Супольная сталіца — Масква, супольная мова — руская.

А што тады застаецца рэспубліканам? Вядома, усё іншае, чаго няма ў паўнамоцтвах Саюза. І хай мне прабачаць чытачы, што рэспубліканскіх паўнамоцтваў пералічыць я не ў змозе, бо што вынікае, напрыклад, з такога запісу: *„Рэспубліканскае заканадаўства на тэрыторыі рэспублік мае вяршэнства па ўсіх пытаннях, за выключэннем тых, якія аднесены да ведання Саюза“*. Або з такога: *„Рэспублікі з'яўляюцца ўласнікамі зямлі, яе нетраў і іншых прыродных рэсурсаў на сваёй тэрыторыі, а таксама дзяржаўнай маёмасці, за выключэннем той яе часткі, якая неабходна для ажыццяўлення паўнамоцтваў Саюза ССР“*.

*Ясна?*

Каб было яшчэ ясней: *„Кожная рэспубліка можа шляхам заключэння пагаднення з Саюзам ССР дадаткова перадаць яму ажыццяўленне асобных сваіх паўнамоцтваў...“*

З праекта, несумненна, вынікае адно права рэспублікі: яна сваіх грамадзян можа абкласці сваімі незалежнымі падаткамі. Калі вы зразумелі сутнасць гэтага „новага Саюза“, то, як лічу, лішнім будзе тут казаць, што з гэтых падаткаў сваю долю яна мусіць адлічыць у цэнтр.

Што новага? Новага ўсё старое, адказваюць.

Іншага праекту, створанага камуністамі, нельга было, пэўна, спадзявацца. Бо гэтая піраміда ўлады ў „новым Саюзе“ дазваляе цяперашняй наменклатуры захаваць усе свае пасады і прывілеі, толькі дзе-нідзе шыльдачкі трэба памяняць: слова „сацыялістычны“ на „суверэнны“. А калі абрэвіятуры, дык і таго не. Камуністы хочуць захаваць уладу: было б наіўнасцю спадзявацца, што выступяць з прапановай, якая б тую імперскую ўладу не толькі што паддала дэмантажу, але хоць абмежавала ў якой-колечы ступені.

Тут усё застаецца кардынальнае пытанне: ці магчыма ўтрымаць СССР як нейкую палітычна-эканамічную злучнасць без таталітарнай сістэмы ўлады, абсалютна цэнтралізаванай? Усе адказы гучаць як бы адмоўна. Без КГБ, ГУЛАГу — гэта немагчыма. Імперыяльны дух як бы застыў над гэтай часткай свету.

Прапанова Салжаніцына — адпусціць к чортавай мацеры ўсе „не-рускія“ рэспублікі і пакінуць толькі „трохадзіную Расію“ — не што іншае, як тая ж самая імперская думка, толькі што абмежаваная ў тэрытарыяльным абсягу. Лёс „літоўскай незалежнасці“ паказвае, як канчаюцца мроі пра выхад з бязвыхаднага СССР адной рэспублікі. Значыць, і сапраўды выхаду няма?

Без забеспячэння эканамічнай базы незалежнасці пра анікую незалежнасць не можа быць гутаркі. Так можна акрэсліць аснову перамоваў, што вялі між сабою прадстаўнікі парламентаў Літвы, Латвіі, Беларусі і Украіны ў Мінску 23—24 лістапада 1990 г. (запрошана была і дэлегацыя з Эстоніі, але не прысутнічала з увагі на пасяджэнне свайго парламента). Тут, вядома, удзельнікі сустрэчы прадстаўлялі няроўныя палітычныя парытэты: латышы і літоўцы выступалі ад парламентарнай большасці ў сваіх краінах, беларусы і ўкраінцы ад апазіцыі ў сваіх парламентах). Пра новы саюзны дагавор, як паведамляе мінская „Літаратура і мастацтва“, усе дэлегацыі выказаліся адназначна: да дасягнення дзяржаўнай незалежнасці рэспублік немагчыма гаварыць аб заключэнні дагавору. На перамовах разглядалася ідэя Балтыйска-чарнаморскага саюза (Літва Латвія, Эстонія, Беларусь, Украіна) — як садружнасці пяці суверэнных краінаў, што імкнуцца да дзяржаўнай незалежнасці. Дзеля гэтага патрэбны гарызантальныя сувязі паміж рэспублікамі, па-за Масквою, у галіне палітычнай, эканамічнай, культурнай. У рэзалюцыі аб эканамічным супрацоўніцтве краін БЧС дэлегацыі рэкамендуюць Вярхоўным Саветам сваіх рэспублік прызнаць цэласнасць тэрыторыі дзяржаў Балтыйска-чарнаморскага рэгіёна і прызнаць права ўласнасці на ўсю маёмасць, што знаходзіцца на тэрыторыі рэспублік. Урадам рэкамендуецца пашыраць эканамічныя ўзаемасувязі між краінамі рэгіёна і прыняць меры па стварэнні супольных антыблакадных фондаў. У рэзалюцыі аб стварэнні нацыянальных узброеных сілаў дэлегацыі лічаць неабходным стварыць нацыянальныя ўзброеныя сілы на тэрыторыі сваіх рэспублік. Належыць правесці перамовы з урадам СССР аб наданні статусу часовага побыту ўзброеных сілаў СССР у Балтыйска-чарнаморскім рэгіёне. Урады рэспублік павінны прыкласці намаганні дзеля стварэння ўмоваў адбываць вайсковую службу сваім грамадзянам на тэрыторыі свае рэспублікі і паспрыяць вяртанню ваеннаслужачых на тэрыторыю свае рэспублікі.

Што ні сказаць пра шанцы ажыццяўлення Балтыйска-чарнаморскай садружнасці, то нельга не заўважыць, што ідэя БЧС — адзіная, пакуль што, разумная прапанова адысці ад імперыі. Не ў адзіночку, а разам... Бо аднаму не пад сілу... Іншая справа, ці БЧС можа стаць стабільнай палітычна-эканамічнай злучнасцю (федэрацыяй?). Ці верх не возьмуць тут партыкулярныя нацыянальныя інтарэсы яе ўдзельнікаў, што разладзяць гэтую канцэпцыю? Камуністы маюць тут несумненную перавагу: у іх нацыянальны інстынкт абсалютна заглушаны „інтэрнацыянальным“ — абы толькі ўлада, неістотнае, на якой мове піша яна свае ўказы...

**Ян Максімюк**




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

**— 31 —**

**РАЗДЗЕЛ XVII**

**Пазіцыя беларускіх эсэраў. Канферэнцыя ў Смаленску ў 1919 годзе і эсэра-бальшавіцкае пагадненне. Адносіны эсэраў да іншых арганізацый. Апанаванне Беларускай вайсковай камісіі.**

У гэтым часе, у 1919 годзе, польскія войскі далей ішлі на ўсход. Надзеі, разбуджаныя адозвай галоўнакамандуючага Пілсудскага, не споўніліся. На беларускіх тэрыторыях разбудоўвалася польская адміністрацыя, што большасць беларусаў успрымала крытычна. Праўда, і ў гэтым часе ў беларускім руху існавалі правыя, якія прыхільна адносіліся да Польшчы, але былі і левыя, якія ўсё актыўней дзейнічалі супраць Польшчы.

Актыўная апазіцыйная пазіцыя эсэраў праявілася ў тым, што пачалі яны выкарыстоўваць непрыхільнасць беларускага насельніцтва ў адносінах да Польшчы і паралізаваць дзейнасць беларускіх правых партый, якія адносіліся да Польшчы прыхільна. Пазбаўленыя матэрыяльных сродкаў і ўзброенай сілы, звярнуліся эсэры праз Бадунову, Трафімава і камуністаў Асвяцімскага і Шантыра да бальшавікоў, убачыўшы ў іх сваіх саюзнікаў.

Восенню 1919 года была праведзена ў Смаленску канферэнцыя з бальшавікамі. Вынікам яе было пагадненне, пасля якога эсэры атрымалі значную суму грошай, прызначаных на антыпольскую дзейнасць, стварэнне паўстанцкіх бандаў, літаратуру, друк праграмы і г.д.

Смаленскае пагадненне мела наступны змест:

Параграф 1. Беларуская партыя эсэраў (сацыял-рэвалюцыянераў) мае ісці плячо ў плячо з Расійскай камуністычнай партыяй.

Параграф 2. Беларуская партыя сацыял-рэвалюцыянераў супольна з Расійскай камуністычнай партыяй вядзе змаганне супраць усіх ворагаў Саветаў.

Параграф 3. Беларуская партыя сацыял-рэвалюцыянераў узнікне ў тыле польскага войска і будзе весці агітацыю сярод беларусаў на карысць антыпольскага паўстання.

Параграф 4. Беларуская партыя сацыял-рэвалюцыянераў выкарыстае ўсе сродкі, каб узяць у свае рукі Беларускую вайсковую камісію ў Мінску, а калі б гэта не ўдалося, справакуе яе.

Параграф 5. Беларуская партыя сацыял-рэвалюцыянераў прымае на сябе абавязак назіраць за ўсімі мясцовымі арганізацыямі, якія выступаюць супраць савецкага ўрада, будзе інфармаваць савецкі ўрад аб гэтых арганізацыях і ў выпадку неабходнасці будзе ліквідаваць гэтыя арганізацыі.

Апрача гэтага, бальшавікі загарантавалі эсэрам месцы ў беларускім урадзе ў выпадку выгнання палякаў з Беларусі.

Пагадненне з боку беларусаў падпісалі Бадунова, Мамонька, Трафімаў, Асвяцімскі і Шантыр.

Вярнуўшыся са Смаленска, беларускія эсэры правялі ў Мінску канферэнцыю ў наступным складзе: Бандарчык, Баранаў, Берднік, Бадунова, Буцько, Цвікевіч, Цыбульскі, Грыб, Якубецкі, Касцяніцкі, Казёл, Ластоўскі, Мамонька, Мядзёлка, Міхалевіч, Асвяцімскі, Я. Пашкевіч, Н. Пашкевіч, Русак, Сыменка, Шантыр, Шыла, Тарэшчанка, Трафімаў, Усціновіч, Заяц, Заўрыд, Здановіч, Жылка і прадстаўнік камуністаў Шалкоў.

На канферэнцыі ў Мінску быў пададзены да ведама членаў Партыі беларускіх сацыял-рэвалюцыянераў змест пагаднення, заключанага ў Смаленску. Выбрана была выканаўчая камісія, якая занялася ўвядзеннем у жыццё паасобных пунктаў дамоўленасці.

*(Працяг будзе)*




## „ВОРАГ ВЕРЫ ПРАВАСЛАЎНАЙ“

З недаверам чытаў я надрукаваны ў 49-м нумары „Нівы“ тэкст пад загалоўкам „Новы палітрук“, падпісаны нейкім Міхасём Грыгаруком. Цяжка мне было паверыць у тое, што рэдактары так паважанага тыднёвіка могуць апублікаваць такі ідыёцкі тэкст.

Грыгарук, паўтараючы ўсю балбатню пра Яновіча з „Тыгодніка Падляшскага“ (№ 64), дадае і свае сенсацыі. Найбольш сенсацыйна-панура гучыць: „...абдумвалі там (на сімпозіуме ў Белавежы — Я. М.), як знішчыць на Беларусі Праваслаўе“. Сярод тых заядлых ворагаў нашай веры быў, вядома, і Сакрат Яновіч, і іншыя, якія перасталі называць сябе „тутэйшымі“, „рускімі“, „праваслаўнымі палякамі“. Мае прэтэнзіі да рэдактараў „Нівы“ заключаюцца ў наступным: чаму друкуеце такую параною і хлусню, ведаючы дакладна, што гэта і ёсць хлусня, бо ж вы, спадары рэдактары, увесь час былі прысутныя на тым белавежскім сімпозіуме?

Вяртаючыся да Грыгарука ці кагосьці, хто схаваўся пад гэтым псеўданімам і выступае як абаронца праваслаўнага веравызнання, я хачу адзначыць вось што: сёння сярод гэтых абаронцаў найбольш заўзятыя тыя, што яшчэ ў 80-х гадах схільныя былі здымаць крыжы з цэркваў і пляваць на святароў. Калі я чую з боку такіх людзей, што „Сакрат Яновіч — гэта вораг святой веры праваслаўнай“, „гэта былы камуніст“, — мне робіцца прыкра. Прыкра не таму, што хтосьці чалавека прыніжае і кідае ў яго граззю, — так было ў нас заўсёды, — але таму, што сёння робіцца гэта пад рэлігійным штандарам, адклікаючыся да вартасцяў, якія для мяне і мільёнаў праваслаўных маюць істотнае значэнне. І мне брыдка на душы ад усведамлення, што гэтыя вартасці бессаромна выкарыстоўваюцца рознымі камбінатарамі і паклёпнікамі дзеля прыватнай выгады, іншы раз дзеля палітычнай кар'еры, ці папросту дзеля кампраметавання людзей з іншымі поглядамі. Вучэнне Праваслаўнай царквы забараняе хлусню, крывадушнасць, нянавісць да свайго бліжняга. Таму агіду выклікае ў мяне той, хто цягне сабе ў падтрымку хрысціянскую маральнасць, каб, фальшывячы і крывадушнічаючы, паклёпнічаць на людзей з іншымі поглядамі. Успомнены аўтар „Новага палітрука“ і той, што ў нумары 64-м „Тыгодніка Падляшскага“ тварыў новую біяграфію Сакрату Яновічу, ведаюць праўду, але ж пішуць хлусню...

Ёсць пэўныя межы прыстойнасці, па-за якія рэдакцыя адзінай беларускай газеты ў Польшчы не павінна выходзіць, нягледзячы на так званую „свабоду выказвання“ і „плюралізм думкі“... Тэкст „Новы палітрук“

(Працяг на стар. 6)




*Беласток, вул. Мазавецкая. Малюнак У. Петрука.*

## СЛЯДЫ ЯТВЯГАЎ?

У манаграфіі горада Камянца, Берасцейскай вобласці, В. П. Кісялёў піша, што на тэрыторыі Белавежскай пушчы жылі ятвягі. Даследуючы курганы Камянецкага раёна, археолагі знаходзяць прадметы матэрыяльнай культуры, характэрныя як славянам, так і ятвягам. У 1279 годзе ятвягі прасілі князя Уладзіміра Валынскага: „Господин князь Владимир! Не помори нас а перекорми, пошли нам жито свое на продажу... Мы будем давать тебе: воску, белок, бобров, чорных куниц и зуброу“. У 1281 годзе ятвягі былі разбітыя князем літоўскім Тройдэнам, а праз два гады іх дабілі крыжаносцы. У канцы XIII стагоддзя ятвягаў не было ўжо на гістарычнай сцэне.

Пра ятвягаў пісалі многія, але ўсе даказваюць, што жылі яны ў прытоках ракі Бебжа. Але ў 1986 годзе малады берасценец Зіноўеў купіў у старычка з Новага Двара (БССР) маленькі малітвеннік, напісаны лацінкай, і стары сшытак, на якім было напісана „Pogańskie gwary z Narewu“. 216 слоў ён перапісаў у свой сшытак. Малітвеннік і стары сшытак, калі сын быў у салдатах, бацька спаліў як непатрэбную старызну. Застаўся толькі сшытак сына. Мовазнаўцы зацікавіліся гэтымі словамі. Старычок з Новага Двара сказаў, што яго бацькі з Белавежы і там ён запісаў словы. А вось некалькі гэтых ятвяжскіх слоў: я — as, ты — tu, ён —es, галава — kałfa, нага — kaj, жанчына — wirba, мужчына — wiros, слова — ward, гаварыць — taurit. Белавежская пушча была вялікая, дык калі ў ёй жылі ятвягі, ці часам назвы мясцовасцей, палявых урочышч, лугоў — не ятвяжскага паходжання?

Чытаючы працу Міхала Кандрацюка „Nazwy miejscowe południowo-wschodniej Białostocczyzny“, выходзіць, што некаторыя назвы — літоўскія, у значэнні мовы жмудскай. І так, вёска Койлы можа паходзіць ад літоўскага слова: kailis — авечая скура, але ў ятвяжскай мове kailis — ціха, цішыня. Вёска Страбля, паводле Кандрацюка, паходзіць ад рэчкі Страбля, але можа і ад латышскага слова straybłys — вясёлка (tęcza). Вёска Пілікі — назва акрэслена ад імя асадніка Pilik. Можа і так, але старэйшы жыхар той вёскі, Ян Аўгустыняк, казаў мне, што ў Піліцкім лесе стаяў вялікі абаронны замак. Ёсць вялікія фундаменты, пакрытыя метрам зямлі, і пра гэта ніхто яшчэ не цікавіцца. Пасля такога паведамлення я зверыў, што літоўскае слова pilis — гэта абаронны замак. Вёска Плёскі мае пры рацэ луг, Яцьбоў ез, значыць, што ятвягі мелі ез для лоўлі рыб ці гадоўлі баброў. Назву вёскі Трывежа Кандрацюк выводзіць ад таго, што там стаялі тры вежы. Калі заглянем у літоўскі слоўнік, то бачым, што trisveżys — гэта тры ракі. Можа, уладальнік тэрыторыі дазволіў першым тром асаднікам, яго сялянам, лавіць ракаў і даваць яму як падатак. Неяк сумняваюся, каб у Бельскім павеце першымі асаднікамі былі жмудзіны. Больш праўдападобна, што тут жылі ятвягі, а іх мова была блізкая жмудскай мове, аб чым сведчаць „Pogańskie gwary z Narewu“. У кніжцы, выдадзенай на Захадзе, я чытаў, што ў Берасцейскім, Бельскім і Сакольскім паветах ятвягі жылі.

**М. Ляшчынскі**

## АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК
# ЦЯНІ ВАТЫКАНУ

### 5. МЮНХЕНСКІЯ БАДЗЯННІ

На досвітку нешта выпіхнула мяне са сну. Гэта было тое недарэчнае перакананне, што найпрыгажэйшыя краявіды пачнуцца раніцай; недарэчнае, бо якое ж значэнне можа мець усё несузіральнае, якое прашыбавала ў цемрані. Наўсцяж распасціраліся ахутаныя імглою Альпы. Амаль тыдзень захадаў у сама менш дзівацкіх установах, каб раздабыць усе тыя халерна неабходныя пячаткі, папярэдзіў падарожжа, а тут вось табе і на. Ніхто нават не затрабаваў пашпарт, не ўспамінаючы ўжо пра тое, што нікога не цікавіла: адкуль, куды, навошта. Калі праязджаеш праз тыя ўмоўныя межы еўрапейскай супольнасці, хутчэй за ўсё ўвогуле не адчуваеш, што ты ўжо ў іншай дзяржаве. Айцец Тамушанскі рэкамендаваў мне паехаць у Лондан. Пра Нямеччыну ж і немцаў выказваўся не надта прыхільна. Аб маім выбары вырашыў практычны бок справы. Атрыманне брытанскай візы было звязана з доўгай і складанай працэдурай, а да таго я пабойваўся, што ў Лондане будуць тарнаваць мяне на вуніята. На нямецкую візу трэба было ўсяго зайсці на пяць мінут у пасольства ФРГ пры Святым Пасадзе і заплаціць столькі, што за тры куфлі піва на Борга Піо. Уся працэдура — бышцам плюнуць у Тыбр. На гэтым не канец, бо ж трэба было яшчэ вярнуцца ў Італію. Каб здабыць дзеля гэтага адпаведныя падставы, страціў пару ладных дзён. Італьянская дэмакратыя — гэта не жарты.

Чвэрць падарожжа прабалбатаў я з адною, як мне думалася, немкай. Не ведаю сягоння, на якім узроўні шаленства мы разумеліся, бо веданне адной супольнай мовы было ў нас далёкае ад ідэалу. Развітваючыся з ёю на пероне, шарахнула мяне, як абухам па лобе. Толькі тады я запрыкмеціў тыя кірылічныя буквы, што горда красаваліся на яе грудзях. *Вы находитесь в американской оккупационной зоне.*

Пад баварскім небам адбылася, паверце мне, найважная сустрэча ва ўсёй беларускай *экзыліі* — сустрэча Багдана Сіманенкі са мною.

Горад Мюнхен, як загадзя прадказваў вешчы айцец Тамушанскі, быў мне цалкам недаспадобы, хоць нельга не заўважыць, што ён функцыянальны і самы адпаведны для застойнабестурботнай экзістэнцыі. Усе помнікі Мюнхена гэта піўная, у якой вядомы капраль пачаў сваю кар'еру, ды некалькі жалю годных фантанаў, у якіх мясцовы бадзяжны элемент халодзіць нацыянальнае пітво Баварыі. З мясцовай беларускай *экзыляй* знайсці кантакт нам не ўдалося, калі не лічыць спадара Юрыя Сянькоўскага, былога кіраўніка Беларускай службы Радыё „Свабода“, з якім колькі разоў сустракаліся і ўтраіх дыскутавалі за куфлем. Аднойчы Бодо, ён жа Багдан, звярнуў маю ўвагу, што спадар Юры, адыходзячы ўбок па нейкай прычыне, заўсё-

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.**

**14. Прыназоўнік — працяг.**

Прыназоўнікі разам з самастойнымі словамі могуць выражаць розныя адносіны:

— пpacтopaвыя: *Мы паўсвету са зброяй прайшлі па далінах, па горах, па рэках.* (Луж.);

— часовыя: *Кіпіць работа дружная ад рання і да ночы.* (Куп.);

— аб'ектныя: *Вякамі людзі марылі пра шчасце, складалі казкі пра сваё збавенне.* (Грах.);

— азначальныя: *Дастаў яшчэ адну напісаную паперу за многімі подпісамі.* (Бяд.);

— прычынныя: *Не раз у маёвую ноч дрыжалі ад страху паны.* (Бяд.);

— мэты: *Я ад'язджаў у горад на вучобу.* (Гіл.);

— способу дзеяння: *Трэба толькі гаварыць ад сэрца.* (К.Ч.).

Вытворныя прыназоўнікі звычайна ўжываюцца з адным якім-небудзь склонам і не характарызуюцца многазначнасцю.

Некаторыя невытворныя прыназоўнікі таксама спалучаюцца толькі з адным склонам, але ёсць і такія, якія могуць спалучацца не толькі з двума, але і з трыма склонамі.

З двума склонамі ўжываюцца прыназоўнікі:

— *за, пад* — з В., Т.: *за дрэва, за дрэвам; пад стрэху, пад стрэхай,*

— *на, па* — з В., М.: *на стол, на стале; па сястру, па рацэ,*

— *між (паміж)* — з Р., Т.: *між дрэў, паміж лугам і лесам.*

З трыма склонамі ўжываюцца прыназоўнікі:

— *з* — з Р., В., Т.: *з вясны, з месяц, з надыходзячым святам,*

— *у* — з Р., В., М.: *у суседа, у нядзелю, у жніўні,*

Для выражэння аднолькавых ці блізкіх значэнняў могуць выкарыстоўвацца розныя прыназоўнікі. Сінанімічнымі прыназоўнікамі могуць выражацца наступныя адносіны:

— прасторавыя: *пад лесам — каля (ля) лесу, каля ракі — паўз раку — уздоўж ракі, абапал (паабапал) дарогі — па баках дарогі — уздоўж дарогі, у вёску (вёсцы) — на вёску (вёсцы), па другі бок вуліцы — з другога боку вуліцы,*

— часовыя: *на тыдзень — у тыдзень, пасля заняткаў — па занятках,*

— аб'ектныя: *па стале — аб стол, пра яе — аб ёй,*

— прычынныя: *з радасці — ад радасці* і інш.

Многім прыназоўнікавым канструкцыям адпавядаюць паводле значэння сінанімічныя беспрыназоўнікавыя канструкцыі, напр.: *ісці па лузе — ісці лугам, бачыць на свае вочы — бачыць сваімі вачыма.*

У словазлучэнні можа праяўляцца нацыянальная спецыфіка мовы. Ужыванне таго ці іншага прыназоўніка часта залежыць ад слова, пры якім стаіць прыназоўнік, напр:

— дзеясловы, якія абазначаюць эмоцыі (*жартаваць, кпіць, смяяцца, цешыцца*) пры выражэнні аб'ектных адносін выкарыстоўваюцца з прыназоўнікам з + Р.: *жартаваць з сябра, цешыцца з сустрэчы,*

— дзеясловы, якія выражаюць пачуцці смутку, гора (*бедаваць, плакаць, сумаваць...*) патрабуюць прыназоўніка *па* + М.: *плакаць па любай дзяўчыне, сумаваць па радзіме,*

— дзеясловы тыпу: *гаварыць, думаць, клапаціцца* найчасцей ужываюцца з прыназоўнікам *пра* + В.: *гаварыць пра жыццё ў Беларусі, думаць пра надыходзячыя дні;* зрэдку (асабліва ў публіцыстыцы) — з прыназоўнікам *аб* + М.: *гаварыць аб мінулым.*

— дзеяслоў *жаніцца* патрабуе прыназоўніка з + Т.: *жаніцца з Ганнай.*

— дзеяслоў *хварэць* і прыметнік *хворы* найчасцей ужываюцца з прыназоўнікам *на* + В.: *хварэць на тыф, хворы на воспу;* зрэдку выкарыстоўваюцца з Т., без прыназоўніка: *хварэць тыфам,*

— дзеясловы руху (*бегчы, ехаць, ісці, плыць*) патрабуюць прыназоўніка *па* + М.: *бегчы па лузе, ехаць па дарозе,*

— прыметнік у форме вышэйшай ступені параўнання ўжываецца з прыназоўнікамі *за* + В., *ад* + Р.: *вышэйшы за мяне (ад мяне), лепшы за бацьку (ад бацькі)* і т.п.

---

ды рупліва дапівае ўсё, што заставалася ў пасудзіне. Гэта, няйначай, каб ніхто не падсыпаў туды атруту. Відаць, я быў у яго вачах патэнцыяльным агентам КДБ, які, пераапрануўшыся ў ватыканскія шаты, з'явіўся ў Мюнхен, каб „увайсці ў фізічны кантакт са сваёй ахвярай", што ў сленгу сакрэтных службаў, як вядома, абазначае ліквідацыю.

Асобны дзень у нашай праграме Багдан прызначыў на зведанне *Englischer Garten* — велізарнага гарадскога парку. Не быў бы ён нічым адметны, калі б не факт, што гуртаваліся ў ім натурысты ды іншы зброд. Багдан меў не абы-якую пацеху, калі прывёў быў сюды Камілу Малевіч, несвядомую празмернай наяўнасці выяваў заходняй дэмакратыі ў гэтым наўсцяж дэкадэнцкім месцы. Поблізу *Englischer Garten* знаходзіцца сядзіба Радыёстанцыі „Свабода". Агароджаная калючым дротам, паўз які вартаўнік рэгулярна акружвае ўвесь пляц. Радыёстанцыя дзее ў інтарэсе свабоднага абмену інфармацыі, бо абмен такі дапамагае ўзаемаразуменню паміж народамі. Адгэтуль нясецца на хвалях эфіру непакрожаная таталітарызмам інфармацыя ў Летуву, Вугоршчыну, Беларутэнію...

Апошні дзень майго ўікенду ў Мюнхене прызначылі з Багданам на тое, што ў Рыме было мне недаступнае, а ў чым Заходняя Нямеччына з'яўляецца адным з сусветных лідэраў. Пайшлі папросту ў парнаграфічнае кіно. Адзінае такое кіно, якое я ведаў у Рыме, знаходзілася, літаральна, у цяні ватыканскіх муроў. Зайсці ў яго я ніколі не наважыўся, бо шкада мне было беззаганнасці маіх маральных паводзінаў, так неабходнай для працы ў Ватыканскай радыёстанцыі. Парнаграфічнае кіно ў Нямеччыне гэта адмысловая ўстанова, у якой можна курыць, у білет ужо ўлічана піва і гэтаму падобнае, а жаночаму полу ўваход цалкам бясплатны. Першае, у якім запыніліся, было надзвычай сціпленькае — паўтараўся той самы фільм, а за інтарэсам сачыў нейкі ачмурэлы індывідуум. У наступным, аднак жа, сціплай была ўжо толькі вопратка жаночага персаналу, а наведвальніка глуміла пяць фільмаў адначасна. Тут нас засмактала на даўжэйшы час.

(*Заканчэнне будзе*)

## ПРЫВЁЗ

Старэйшыя людзі памятаюць пастаўкі, якія былі абавязкам кожнага селяніна. Некаторыя маглі з імі справіцца, а іншыя — не. Хто не аддаў упару тое, што „належалася" дзяржаве, да яго прыязджаў каморнік і пісаў, што трэба ўзяць узамен.

У Касцы была добрая гаспадарка і дарабіць яшчэ мог, бо быў столярам. Але што з таго: рукі меў залатыя, а горла смаляное. Як працаваў — то працаваў, а калі пачаў піць, то і збожжа выносіў за гарэлку.

Жонка з дзецьмі ледзь маглі зарабіць на хлеб.

Не аддаў абавязковых паставак і не заплаціў падатку. Прыехаў каморнік. Пахадзіў, паглядзеў і нічога добрага з дабытку не ўбачыў. У хаце заўважыў старую ікону „тайнай вячэры". „Трэба хоць гэта ўзяць", — падумаў каморнік. Косці сказаў, каб знайшоў вялікі кавалак паперы, шнурок, бо трэба запакаваць ікону.

Навошта папера і нашто пакаваць, ды вам яе цягнуць у гміну, — хітраваў Косця. — Я маю скрынку размеру іконы. Туды палажу і завязу!

Каморнік, задаволены, што падвода трапляецца і не трэба пехатой ісці ў гміну, згадзіўся.

Палажылі ікону ў скрынку, закрылі, каморнік яе запламбаваў, каб гаспадар не забраў ікону.

— Пайду яшчэ па вёсцы, бо ёсць некалькі такіх, як вы. Як усіх абыйду, то прыйду і паедзем у гміну.

Як толькі каморнік выйшаў з панадворка, Косця адбіў дно і дастаў ікону. У скрынку паклаў паламаных чоўнікаў, шпулек, ручак ад ніцельніц і пакулля. Пасля ўсё акуратна забіў, а ікону так схаваў, што са свечкай не знойдзеш.

Каморнік, нічога не падазраючы, адкрыў перад войтам скрынку. Як убачыў войт, што ляжыць у скрынцы, давай лаяць каморніка.

Косця, задаволены, паехаў дадому.

## СТРАТА МАЛАЯ, А КЛОПАТАЎ ШМАТ

Люся ішла з працы дадому з другой змены. Ноч была цёмная, не было ні адной зоркі. На той вуліцы, дзе жыла, не было асвятлення. Жанчына ішла, азіраючыся — было неяк страшнавата.

Раптам з-за блёка выскачыла трох хлопцаў. Адзін піхнуў Люсю, яна павалілася. Другі вырваў з рук сумку і хуліганы хутка зніклі ў цемры.

У яе сумцы было ўсяго 100 тысяч злотых, ключ ад кватэры, дакументы...

Прыйшла Люся ў блёк і давай прасіць суседку, каб тая ўпусціла яе пераначаваць. На другі дзень трэба было шукаць чалавека, які зменіць замок — хуліганы мелі ж ключы і адрас! Трэба было нанава вырабіць усе дакументы. Адным словам — клопатаў шмат.

— Дзякуй Богу, — сказала суседка. — што цябе не скалечылі. Цяпер ніколі з гэтым невядома!

**Аўрора**

## Дзе знайшоў рокер паэтэсу?

Адказ на гэтае пытанне многіх здзівіць: рокер знайшоў паэтэсу на фальклорным канцэрце. Але не спяшайцеся здзіўляцца, бо паэзія, фальклор і рок-музыка ўяўляліся антаганізмамі толькі ў час панавання камуністычнай ідэалогіі. Гэта даўно ўсвядоміў і актыўны аўтар „Нівы" з Мінска Вітаўт Мартыненка, прапагандуючы ідэю талерантнасці ў сваіх артыкулах для нашае рубрыкі „Молада, сучасна, па-беларуску". Гэты рокер — ці, дакладней, рок-журналіст — і маецца на ўвазе.

Пра паэтэсу Тацццяну Ермаковіч з Гомеля чулі, бадай, тыя, хто выпісвае ды чытае беларускую маладзёжную прэсу: яна друкавалася ў „Чырвонай змене", „Гомельскай праўдзе" ды іншых выданнях.

Доўгі час іхнія пошукі шчасця заканчваліся знаходкамі адзіноты. Дый ці лёгка беларусу знайсці беларуса ў Савецкай Беларусі? Там, дзе родная мова ўсё яшчэ ўспрымаецца як ганьба. Там, дзе ў канцэртнай зале, у кінатэатры, у дзяржаўнай установе свядомы беларус абавязкова адчувае сябе чужым.

Але вясной 1990 года ў Мінск з Нью-Йорка прыехаў з канцэртамі фальклорны беларускі ансамбль „Васілёк", паглядзець на мастацтва якога паімкнуліся



свядомыя беларусы з усіх куткоў рэспублікі. Зала была перапоўнена, але яны ўбачылі адзін аднаго — мінчук Вітаўт Мартыненка і гамяльчанка Таццяна Ермаковіч.

Потым — сумеснае Купалле ў Вязынцы з „Васільком". Пасля — рамантычнае каханне, дастойнае пяра аўтара „Рамэа і Джульеты", але з шчаслівым фіналам: 19 студзеня несвядомы беларускі чыноўнік у Мінску паставіць апошнюю пячатку на дакуменце аб стварэнні новай беларускай сям'і, а 20 студзеня маладых Мартыненкаў абвянчаюць паводле праваслаўнага абраду ў мінскім Кафедральным саборы.

Тады ж, у студзені, у часопісе „Вожык" выйдзе фельетон „Паўшлюбу, паўшчасця" пра цэрні, якія давялося прайсці маладым ва ўмовах поўнай разрухі ў дзяржаве.

Тэкст і фота
**Уладзіміра Панады**



(Працяг са стар. 4)

— гэта не „выказванне“ і не „думка“ а паскудны паклёп, не толькі, зрэшты, на аднаго чалавека... Я, вядома, буду заставацца вашым чытачом і далей, але хацелася б мне, каб „Ніва“ была месцам абмену поглядамі ўраўнаважаных і цвярозых людзей, а не злосных ігнарантаў.

З пажаданнямі поспехаў у Новым Годзе —

**Яўген Міранові́ч**

## НАШЫ МЯСЦОВАСЦІ

У 48 нумары быў змешчаны артыкул М. Ляшчынскага „Нашы мясцовасці“. У ім, між іншым, пішацца аб маёй роднай вёсцы Плёскі. Напісана, так сказаць, агульна, добра, але ёсць у ім некалькі, на маю думку, памылак. Найбольшая з іх — назва ўрочышча Яцьбоў ез. Сапраўды называюць яго Яцькоў ез. Старыя жыхары гавораць, што назва паходзіць ад прозвішча гаспадара ці ўладальніка еза нейкага Яцька ці Яцка. Такое прозвішча дагэтуль было ў Рыбалах, суседняй вёсцы. Я сам працаваў у Бельску з Раманам Яцко. Яцькоўскі род, мабыць, ідзе і ад ятвягаў, але гэтага не ведаю. Ез быў сапраўды і ўсе ведаюць, дзе ён знаходзіўся. Я сам памятаю, як жыхары нашай вёскі адкопвалі і выцягвалі каменне, з якога быў зроблены ез. Знаходзіўся ён блізка ад шашы, недалёка ад заезду „Заглоба“. Па другі бок шашы ёсць не менш цікавае ўрочышча — Броварыска. У вёсцы гавораць, што ў тым месцы быў бровар, а можа і яшчэ нейкія мануфактуры з цэглы. Не ўпамінаецца, на жаль, у тэксце беларуская назва ўрочышча Мутвіца, якая спатыкаецца ў многіх вёсках Беласточчыны.

А назва Плёскі паходзіць ад слова „плёса“ (płoso). Сёння гэта слова можна адшукаць у акадэміцкіх падручніках аб рэках. Абазначае яно глыбіню ў нурце ракі ля абрывістага берага. У суседняй вёсцы Дзяніскі таксама блізка ад ракі ёсць урочышча, якое наш сусед па сенажаці Якім Тышчук (ужо не жыве) называў „Моронгово плёсо“. У тым месцы калісьці была вялікая глыбокая яма на рацэ Нарве. Ад гэтага старога славянскага слова выводзіцца назва нашай вёскі Плёскі.

**Уладзімір Стэпанюк**

## Навіны з кнігарні

**Паявіліся ў кнігарнях падрыхтаваныя Станіславам Шадыкам і Алінай Вуйцік „MINI ROZMÓWKI BIAŁORUSKIE“. Кніжачку выдала ў 1990 годзе выдавецтва „Wiedza Powszechna“. Тыраж 10000 экземпляраў. Змяшчае яна лексіку і звароты з некалькіх асноўных тэм, такіх, як прывітанні, час, колеры, мера і вага, лічбы, на граніцы, камунікацыя, раскватараванне, пакупкі, медычная дапамога і т.п. Асабліва спатрэбіцца яна турыстам, якія маюць намер наведаць Беларусь.**

**Я.Т.**

# Міласэрная місія

*У кастрычніку мінулага года нашу рэдакцыю наведаў айцец Аляксандр Надсон з Лондана — апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў за межамі Беларусі. Неаднойчы на старонках „Нівы“ пісалі мы аб яго духоўнай, культурнай і дабрачыннай дзейнасці. Зараз хочам паказаць яго ўклад у акцыю дапамогі ахвярам аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Як арганізуецца дапамога ў Вялікабрытаніі, расказвае сам а. Аляксандр Надсон.*

— У 1990 годзе (праз чатыры гады пасля аварыі) прадстаўнік Беларусі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый зрабіў заклік да дзяржаў усяго свету дапамагчы Беларусі пераадолець вынікі чарнобыльскай аварыі. Але гэты заклік не зрабіў вялікага ўражання. Каб атрымаць дапамогу, патрэбна сур'ёзная інфармацыя пра размеры трагедыі і яе вынікі. А той верагоднай інфармацыі дагэтуль не было. Зараз на Захадзе людзі шчырыя, але трэба іх пераканаць, а для гэтага патрэбна нескажоная інфармацыя. Беларускі народны фронт „Адраджэнне“ зрабіў ужо добрую інфармацыйную працу ў Нямеччыне.

У Вялікабрытаніі стварылі мы Беларускі камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі. У яго склад уваходзяць і беларусы, і англічане, і іншыя. Сярод сяброў камітэта знаходзяцца вядомыя чытачам „Нівы“ Джэймс Дынглі і Вэра Рыч. Праводзіць акцыю дапамагаюць нам дабрачынныя арганізацыі, каталіцкія і англіканска-пратэстанцкія парафіі, ліга каталіцкіх жанчын, школы. Пасля майго першага візіта ў Беларусь выступіў я ў англійскім тэлебачанні і расказаў пра трагедыю людзей, апынуўшыхся на тэрыторыі, забруджанай радыяцыяй, а таксама звярнуўся да тэлегледачоў за дапамогай. Быў пададзены адрас нашага камітэта і тады пачала паступаць дапамога з усяе Вялікабрытаніі.

Дзякуючы англічанам было ўжо сабрана 12 тысяч аднаразовых шпрыцаў, тысяча прыладаў для пералівання крыві, тысячы катэтэраў, новыя прэпараты для лячэння леўкеміі, антыбіётыкі, вітаміны. Гэты груз, варты 30 тысяч фунтаў-штэрлінгаў, быў перададзены І бальніцы ў Мінску і шпіталям у Гомелі і Хойніках.

У Беларусі быў я апошнім часам два разы. Трэці раз збіраюся паехаць на Каляды. Ад гэтых паездак склаліся ў мяне сумныя ўражанні. Чарнобыль — гэта вялікае гора, якое закранула ўвесь беларускі народ і з'яўляецца нацыянальнай трагедыяй. Сёння ніхто не можа з упэўненасцю прадбачыць час трывання, размер ейных вынікаў і ўплыў на будучыню беларускага народа. Уражваюць перш за ўсё хворыя дзеці, адчайныя маці і бездапаможныя лекары. На Захадзе 80 працэнтаў хворых на леўкемію вылечваюцца, а ў Беларусі — толькі 15. Няма тут адпаведных лекаў і сучаснай медыцынскай тэхнікі. Напрыклад, дыягназ хворым ад радыяцыі ставіцца пры дапамозе рэнтгенаўскага апарата, а рэнтгенаўскія праменні — гэта таксама радыяцыя, небяспечная і так ужо хвораму арганізму. Пры такіх захворваннях лекарскае абследаванне трэба праводзіць пры дапамозе ультрагукавай апаратуры, а такой у Беларусі няма. Зараз збіраем грошы (патрэбна 25 тысяч фунтаў-штэрлінгаў), каб купіць такі апарат для адной з бальніц.



*Айцец Аляксандр Надсон.*

Атрымоўваем ад бацькоў трагічныя лісты з просьбай лячыць на Захадзе іх хворых дзяцей. Мы не ў сілах задаволіць такія просьбы. Лячэнне на Захадзе вельмі дарагое. У Англіі адзін дзень прабывання ў бальніцы каштуе 350 фунтаў-штэрлінгаў, а ў Нямеччыне — 900 марак. Маглі б мы ўзяць на лячэнне некалькі дзетак, але ўзнікае пры гэтым маральная дылема: узяць адно, двое, а што з рэштай? На мой погляд, наша дапамога будзе больш карыснай, калі будзем перадаваць лекі і медыцынскія прылады бальніцам.

Помач для Беларусі нельга абмяжоўваць толькі лекамі і апаратурай. Існуе патрэба, каб незалежная група спецыялістаў — анколагаў і эколагаў — правяла даследаванні, зрабіла з гэтага справаздачу і паказала, што патрэбнае для ліквідавання вынікаў радыяцыі. Такая інфармацыя, зробленая незалежнымі спецыялістамі, патрэбна на Захадзе і напэўна спрычынілася б да павелічэння памераў медыцынскай дапамогі.

Мы ў далейшым будзем працягваць сваю міласэрную місію. Супрацоўнічаем з камітэтам „Дзеці Чарнобыля“ пры Беларускім народным фронце „Адраджэнне“. Запросім да нас на канікулы групу дзяцей з чарнобыльскай зоны. Будзем арганізоўваць маладым беларускім лекарам стажыроўку ў Англіі і далей пастаўляць лекі і неабходныя прылады.

Запісаў **В. Луба**
Фота **Я. Максімюка**



# НЕ ПАКІНЕ НАС НАДЗЕЯ

(Працяг са стар. 1)

дарозе ў Мінск заехалі да мяне з касетай Слава, Валера і Сяржук (Краўчанка): страшэнна ўмораныя і пахудзелыя. „Не пытай, як жылі, паслухай музыку“, — казалі. Адчуванне такое, што ўдалося амаль у 100 працэнтах запісаць так і тое, як і чаго хацелі.

Новы альбом называецца „Краіна доўгай белай хмары“. У пачатку студзеня (магчыма, якраз калі вы чытаеце гэты тэкст) ён ужо будзе на кружку, выпушчаным у Варшаве фірмай „Polskie Nagrania“. Магчыма таксама, што гэты альбом пакажацца адначасова (або і раней) з „Чужаніцай“, з якім ужо год часу валаводзіцца маскоўская „Мелодыя“. Вось вам прыклад, як дзейнічаюць падобныя ўстановы ў варунках вольнага і „паднявольнага“ рынкаў. На „Краіну“ складаюцца дзевяць нумароў. Бок А: *Другое падарожжа, Памажы (Беларуская малітва), Першае дрэва, Кругі на вадзе, Радыё Свабода.* Бок Б: *Краіна доўгай белай хмары, Ерусалім, Добры напой, Брама жыцця.* Музыка запісана ў лічбавай сістэме гуказапісу (першы такі выпадак у беларускай рок-музыцы): якаснасць гэтага запісу дазваляе змясціць яго на кампактдыску. У запісе прынялі ўдзел: Слава Корань (гітара), Сяржук Краўчанка (бас-гітара), Сяржук Кныш (барабаны), Валера Ціціцкі (перкусійныя інструменты), Андрэй Патрэй (спеў). Гасцінна выступіла Таццяна Мархель (спеў). Музыку для альбома напісаў Слава Корань, тэксты песняў — Фелікс Аксёнцаў. Альбом запісаны 16.11. — 06.12. 1990 г. у Ольштыне на студыі Рышарда Шміта.

Тыя, што ведаюць песні з „Чужаніцы“ (а іх на Беласточчыне нямала, дзякуючы „Басовішчу“ і беларускім радыёперадачам), паслухаўшы „Краіну доўгай белай хмары“, я ўпэўнены, адчуюць смак эстэтычнай нечаканасці, у станоўчым сэнсе гэтага акрэслення. Станецца сведкамі таго, што называецца крокам у мастацкую спеласць, у самасвядомасць творчага шляху і ўласных магчымасцяў. Маючы ў вушах музыку з „Чужаніцы“ і „Краіны“, мы можам памкнуцца зрабіць некаторыя параўнанні. „Чужаніца“ быў пошукам уласнае дарогі „Уліса“, арыенціры былі ўжо намечаны, асноўныя акцэнты расстаўлены. Заставалася ўсё-такі знайсці тую адно сабе ўласцівую танальнасць, адметнасць музычнага почырку і фразы, якую не западозрыш у цытатах і не пераблытаеш з іншымі. „Улісу“ гэта ўдалося. Паўгода раней, пішучы пра музыку „Уліса“ („Ніва“, 15 ліпеня 1990 г.), я назваў яе духоўным пошукам і падарожжам у сваю (беларускую) існасць. Было гэта тады, калі я ведаў толькі песні з „Чужаніцы“, якія, нягледзячы на ўсё (а перш за ўсё — на спярэшчаныя сюррэальнымі закрутасамі тэксты Фелікса), неслі ў сабе і пэўную „сацыяль-




Калі нехта яшчэ не знаёмы са Станіславам Банахам, прыязджаючы ў Белавежу і ходзячы па яе завулках, можа пазнаёміцца з ім без непасрэднага кантакту. С. Банах мае сваю „візітную картачку“ ў многіх месцах Белавежы. Гэта перш за ўсё арыгінальныя інфармацыйныя дошкі, выкананыя з карэнняў і рознай таўшчыні галінаў дрэў, расстаўленыя пераважна ў тых пунктах, дзе найчасцей бываюць турысты. Праца яго рук — гэта таксама таблічкі да цікавых, рэдкіх экземпляраў дрэў і кустоў у палацовым парку.


*Станіслаў Банах ля ўвахода на свой панадворак.*

Той, хто зойдзе на могільнік, пабачыць надта нетыповыя надмагільныя помнікі ды кампазіцыі, якія рэзка вылучаюцца ў бетонна-мармуровым гушчары. На вочы трапяць яму і арыгінальныя фігуры Ісуса Хрыста, выразаныя на галінах дрэў, прымацаваныя да крыжоў. Шмат турыстаў заходзіць таксама ў рымска-каталіцкі касцёл, дзе можа захапіцца проста безлікам вельмі арыгінальных кампазіцый сакральнага характару. Яны надаюць самому храму непаўторную прыгажосць.

Праязджаючы побач дома № 8, што па вул. Крыжы, турыст убачыць мастацкую кампазіцыю ў агародчыку народнай мастачкі Мар'і Смактуновіч. Падобную выставіў С. Банах таксама на сваім панадворку, што на вул. Крыжы № 13. Наогул варта заглянуць на Банахавы панадворак. У вочы перш за ўсё кідаецца фантастычна прыдуманая агароджа.

Займаецца С. Банах і вырабам памятак для турыстаў. У апошні час пераважна выконвае драўляныя крыжыкі з фігуркамі Ісуса Хрыста. Запатрабаванне на іх амаль бясконцае.

Гэты таленавіты жыхар Белавежы вядомы таксама і па-за межамі пушчы. Выступаў ён па радыё, а некалькі гадоў назад здымаўся ў дакументальным фільме. Працуе С. Банах лесніком у Белавежскім нацыянальным парку. Ён надта любіць лес, паэзію — проста ляснік з душой мастака.


*Арыгінальная інфармацыйная дошка на гаці ў палацовым парку.*

Тэкст і фота **Пятра Байко**

# Археолагі на полі бою

Навуковая археалагічная экспедыцыя, якая даследавала поле грундвальскай бітвы, закончыла працу. Экспедыцыя гэта з Інстытута археалогіі сярэдняй Польшчы ПАН з Лодзі, якой кіраваў дацэнт Анджэй Навакоўскі, занялася магіламі, знойдзенымі ў вёсцы Лагдова, на лугу селяніна Рышарда Зялінскага. Жыхары вёскі гаварылі, што гэта магілы з грунвальдскай бітвы. Пасля месяца даследавання археолагі знайшлі восем магілаў, вельмі знішчаных глыбокім араннем глебы. Пахаваныя мужчыны ляжаць галовамі на захад, жанчыны — у другі бок. Ёсць і магілкі дзяцей, значыць — не можа гэта быць месца пахавання воінаў. У магілах не было знойдзена нічога, што магло б быць аздобай вопраткі. Археолагі гавораць, што гэта могільнік ахвяр нейкай эпідэміі ў сярэдневякоўі.

Больш шчасця мелі археолагі з экспедыцыі Музея Варміі і Мазур і іх кіраўнік Рышард Одой. Пры дапамозе гарцэраў з Грунвальдскага археалагічнага клуба даследавалі яны месца пры капліцы, пабудаванай праз год пасля бітвы. Пераглянулі яны сто кубічных метраў зямлі, знайшлі кавалкі сярэдневяковых падмуркаў, многа керамікі з таго часу, цвікі, шкло, стрэлы, пікі і шчыты, посуд і косці звяроў. На ўсім гэтым відаць сляды пажару, які наведаў капліцу і іншыя збудаванні ў 1414 годзе. Перад заканчэннем раскопак археолагі наткнуліся на плыткі роў, завалены каменнем і сярэдневяковымі цаглінамі. Што ў сярэдзіне рова — адкапаюць і разгледзяць у наступным сезоне.

**Андрэй Гаўрылюк**

ную нагрузку“. Тыя словы зараз можна поўнасцю аднесці да новага альбома. У ім індывідуальна-духоўнае поўнасцю выцясніла „сацыяльнае“. Індывідуальнасць тут трэба разумець у сэнсе шасціадзінасці „улісаўскага“ тону: пяцёра музыкаў і тэкставік увайшлі ў адну плынь. У гэтым сэнсе ў гурце няма лідэра. У тым — сіла „Уліса“: духоўная і прафесіянальная зладжанасць.

Гартаючы некаторыя савецкія беларускія газеты і часопісы, тут-там можна натрапіць на акрэсленні „беларускі рок“, „беларуская рок-музыка“ (нярэдка пад гэтымі лозунгамі вы сустрэнеце подпіс неўгамоннага Вітаўта Мартыненкі, які праграмна выступае супроць усялякай расейшчыны ў поп-музыцы, што ствараецца на Беларусі). Шмат у такіх лозунгах, па-мойму, забягання наперад, шмат неапраўданага энтузіязму. Беларускамоўны рок — не значыць: беларускі рок па свайму духу. Гэты апошні для мяне пачынаецца з „Краіны доўгай белай хмары“. Нацыянальная інтанацыя ў рок-музыцы — рэч надзвычай складаная. Яе, па-мойму, на належным узроўні дасягнулі толькі кельцкія музыканты, гэта значыць, ірландскія рокеры. Амерыканскі фольк, стылістычную адметнасць якога ніхто не аспрэчвае, застаецца менавіта фолькам — асобнай дзялянкай музычнае актыўнасці, і „чыстым“ рокам назваць яго цяжка. У асноўным, мы маем даволі аднародную англа-амерыканскую рок-мяшанку, у якую непазбежна ўліпаюць усе іншыя „нацыянальныя рокі“ (за выняткам, як я ўжо сказаў, некаторых ірландцаў). Спробы „нацыяналізацыі“ рока найчасцей давалі вынікі накшталт нашых „Песняроў“. Мабыць, таму ў першую чаргу, што нацыянальнае ў гэтай музыцы — гэта не транспазіцыя напеваў свайго народу з рытмам рок-н-рола, падаваным электрыфікаванымі інструментамі, а транспазіцыя душы народа, ягонага светаўспрымання і светаадчування, выражаных музычнымі сродкамі маладзёжнай субкультуры, якая мае ўжо сваю традыцыю (сама менш трыццацігадовую), свой канон, сваіх пракокаў і эпігонаў. Свядомасць, нават частковая, гэтае субкультуры і свядомасць апрычонасці свайго нацыянальнага лёсу часам дае пробліск неардынарнага — нацыянальную інтанацыю ў рок-музыцы, новую якасць у той музыцы. Гэты пробліск мы ўгледзім у „Краіне доўгай белай хмары“.

Цяжка мне вызначыць свядомасць „улісаўцаў“, што тычыцца тае субкультуры: тут, на маю думку, творча асэнсаванае лепшае з дасягненняў *The Doors, Police, U-2...* І гэта вябла-га, бо ж гэта вяршкі рок-музыкі, а не эпігонскае калаброддзе... Магчыма, што шмат іншага яшчэ... Мне ўжо за трыццаць, і сэрца прыспешвае наогул ад узыходжання па лесвіцы, а не ад грукату хэві-метал і іншага жалеззя, падключанага да кілавольтаў... Але „Уліса“ я слухаю з сапраўднай прыемнасцю, якраз дзеля тае нацыянальнае інтанацыі, дзеля духоўнай медытацыі... Бо „Краіна доўгай белай хмары“ — гэта і ёсць медытацыя над чалавечым лёсам, прафільтраваная беларускім светаўспрыманнем... І вы яе будзеце слухаць з прыемнасцю, калі вам трапіць у рукі дыск або касета... І звернеце, як і я, увагу на выдатна прадуманую канцэпцыю альбома, на яго эстэтычную завершанасць. І зразумееце, чаму двойчы чуваць голас Таццяны Мархель, якая спявае адзін сумна-сумны беларускі напеў і беларускую дзіцячую калыханку — своеасаблівыя пункціры на „улісаўскім“ шляху. І яшчэ адчуеце, што дзве песні — „Краіна доўгай белай хмары“ і „Ерусалім“ — гэта канон рока, не толькі беларускага.

Дасць Бог, будзе „Басовішча '91“, і пабачым ды пачуем „Уліса“ ў Гарадку. Хлопцы прыедуць са знявечанай краіны, прывозячы з сабою сваю музыку — сублімацыю духа тубыльчага народа, які ўжо амаль не памятае свайго імя. У паэтычнай назве іхняга другога альбома ёсць, пэўна, і намераны сарказм: Краінай Доўгай Белай Хмары народ маоры называў сваю айчыну, што цяпер вядомая свету як Новая Зеландыя.

*„Не пакіне нас надзея“*, — спявае „Уліс“.

**Ян Максімюк**

# Каму шчасце?

**— Не ўмею жыць адзінока, не магу. Цэлае жыццё была з Ёзікам, з нашымі дзецьмі. Замуж выйшла ў 16 гадоў. Ёзіка пазнала на рабоце. Тыдзень прайшоў — і я сказала бацькам, што замуж пайду. Смяртэльна закахалася. Прыбегла з працы — забегла да цёткі Юлькі, схапіла гармонік і як не ўрэжу польку! І спяваю, і плачу!.. Зараз і згулялі вяселле.**

**Кацярына нарадзілася, у наступным годзе — Ясё. І так пайшло... Вядома, кахаліся, і ўсе нашыя дзеці — плод нашага шалёнага кахання. За Ясем была Ганка. Потым двое — Юрка і Мірэк. Затым — Андрэйка. Пасля — Юлітка. Апошнія — Тамаш і Пеця. Нарадзілася яшчэ Зося, але маленькая памерла — я ўжо немаладая была і пэўна гэта пашкодзіла. Найстарэйшая дачушка Каські — старэйшая за маіх наймалодшых, а яны ж дзядзькі яе!**

**Пэўна, што цяжка цэлымі гадамі рук з мокрых пялёнак не вымаць, але ж гэта вядома, калі дзеці ёсць, то і каханне ёсць у сям'і. Ёзік не быў кепскі бацька — грошы даваў, а нават падзарабіў нямала, бо на гармоніку заядла рэзаў і на вяселлі яго запрашалі, то і грош быў. Мне самой мама вельмі дапамагала. Ёзік або на рабоце, або ў гасціне, а я з дзецьмі... Але калі ўжо прыйдзе — то і паб'емся, і шчыра пацалуемся. Адно ў мяне было каханне — заўсёды свежае і новае. Як пойдзем разам на забаву, дзяцей матцы падкінуўшы — уся зала наша! Я нават туфелькі скіну, так гойсаю! Малодшыкі захапляліся, з рук мяне не выпускалі. Столькі дзяцей нарадзіла, а сама гнуткая, як вярба, тоненькая ў стане, ножкі як веткі, лепшая не ад адной дзеўкі... Не заўважыла нават, як бабулькай стала. У 36 гадоў, але ніхто не сказаў бы! Ёзік даволі хутка састарыўся, гарэлка робіць сваё. Праўда, п'янага яго з вуліцы рэдка падбіралі, але без кілішка ў дзень быў не да жыцця. Уцягнуўся. Заўсёды пляшку трымала ў хаце, бо калі яму захочацца — то лепш самой з ім выпіць, чым пускаць яго чорт ведае куды! Водка ж таксама для людзей, абы не піць замнога. Алкаголікам Ёзіка не назавеш — не піў жа ніякіх дзікалонаў. Кабетак заўсёды любіў, але мне гаварыў, што яму мяне хапае. Да дзяцей адносіўся добра, не біў, хаця асабліва не цікавіўся, як там у іх у школе і ў што я іх апрану, бо грошы даваў; усе гэтыя справы былі на маёй галаве.**

**Рыхтавала я гасціну — свой сорак пяты дзень нараджэння. Сорак пяць гадоў чалавек мае ў жыцці, як і васемнаццаць! Мая мама паехала ў Беласток купіць мяса і сустрэла Ёзіка з жанчынай майго ўзросту, а мо і старэйшай. Сказаў маме, каб перадала мне, што пераходзіць жыць да яе. У яе ёсць муж, але яны бяздзетныя, дык і развядуцца, а Ёзік шчаслівы, што спаткаў жанчыну свайго жыцця. Мама аж плюнула ёй у твар. Кабета выцерла вочы і сказала: „Скажыце вашай дачцэ, што і мне належыцца шчасце ў жыцці! Яна жанчына, зразумее. І Ёзік заслужыў на шчасце!“**

**Я думала, што памру. Уся вёска гаварыла на мяне: „Зінка-пакінда“. Знайшла я працу ў суседнім мястэчку, наняла пакойчык, забрала ад мамы двое наймалодшых. Не магла жыць адзінока, прыняла аднаго мужчыну. Добры быў — умеў і зварыць, і прыбраць у хаце, і рукі ў яго былі залатыя. Піў — праз гэта ў яго былі хворыя вантробы, і не жыў са сваёй жонкай. Думаў, пры мне перастане піць, але не ў гэтым жа ўзросце кідаць такую звычку!**

**Калі памёр (нядоўга мы былі шчаслівыя), прыехаў мой Ёзік з кветкамі. Хацеў зноў са мною жыці. Тая яго каханая Таня нарадзіла мёртвага хлопчыка. Усё хварэла нейкай брыдкай хваробай. Гаспадыня яна нікудышняя. Ёзік быў ёй і за няньку, і за кухарку. Запытала я дзяцей, што мне рабіць. Усё ж я яго кахала, і столькі пражылі разам... Старэйшыя дзеці сказалі: „Не!“, але малодшыя кідаліся яму на шыю. Быў у мяне пару дзён, але прыехала Таня і ўпала яму да ног, каб вярнуўся да яе. У маім доме — такія сцэны! Выкінула я яе з хаты. Ну, абазвала, не шкадуючы слоў, ад усялякіх. Тады Ёзік схапіўся: „Зінка! Як ты так можаш?! Гэта нешчаслівая кабета! Хворая! Не магу яе кінуць!“ Сабраўся і паехаў з ёю.**

**Спаткала я іншага. Нядрэнны, сам разводнік. Пераехала я жыць у Беласток, але ён не хоча знаць маіх дзяцей. Пакуль што яны ў бабулі на вёсцы, канчаюць пачатковую школу. Пойдуць далей вучыцца, будуць жыць у інтэрнаце — буду бліжэй іх. Знаёмыя кажуць мне: „Нашто табе гэты чалавек, жыла б спакойна з дзецьмі?!“ А я не магу жыць адна. Каб Ёзік насміхаўся? Ці я горшая за іншых? Ці гэта мая віна, што ўсё маё жыццё развалілася? Неяк трэба чапляцца жыцця, бо ж у магілу не палезеш у сорак пару гадоў. А новае жыццё як пачаць? Застары ўжо чалавек, застары... Не зменіш нічога. Новага прабаваць? Абы хоць дзецям удалося ў жыцці...**

**МІРА ЛУКША**




Дарагое Сэрцайка! Мы з маім хлопцам сябравалі паўгода. Мне 17 гадоў, а яму 18. Усюды разам хадзілі, а часамі ён прыходзіў да мяне дахаты і мы глядалі тэлевізар, дзяліліся ўражаннямі аб прачытаных кніжках. Сябры і сяброўкі лічылі нас парай, але сапраўды нічога сур'ёзнага між намі яшчэ не было. Нашыя сустрэчы заканчваліся найчасцей нейкім дзіцячым пацалункам ці прытуляннем. Дома была я выхавана так, што дзяўчына павінна жыць паводле нейкіх акрэсленых прынцыпаў, гэта значыць, што можна сябраваць з хлопцам, можна прытуляцца і цалавацца, але ўсё астатняе — пасля шлюбу. Я яшчэ, зрэшты, не была ўпэўнена, ці выйду замуж за гэтага хлопца, але мне здавалася, што я яго кахаю.

Была залатая восень, стаяла цудоўнае надвор'е. Я жыву на ўскраінах Беластока і вельмі ўцешылася, калі мая сяброўка, з якой мы вучыліся ў адным класе, а якая даязджала ў школу з недалёкай вёскі (3 кіламетры ад Беластока), запрасіла мяне і майго хлопца на забаву, што мела адбыцца ў іхняй святліцы. Хлопец мой таксама ўзрадаваўся, і мы, шчаслівыя, не прадчуваючы нічога дрэннага, накіраваліся да маёй сяброўкі.

Забава, аднак, не была занадта цікавая. Мы крыху пагулялі, а пасля нехта запрапанаваў паехаць на забаву ў суседнюю вёску. Мы выйшлі на вуліцу. Было цёмна, але на дарозе я ўбачыла белы „фіат“, у якім сядзелі два хлопцы. Яны ўжо былі мне крыху знаёмыя, на гэтай забаве я танцавала з адным з іх. Першы сядзеў за рулём, другі — ззаду. Той, што сядзеў ззаду, адчыніў дзверцы і сказаў, каб я села каля яго, бо і яны едуць на забаву. Хлопец мой памкнуўся быў сесці спераду, але неспадзяваны моцны ўдар шафёра паваліў яго на зямлю. Шафёр трэснуў дзверцамі, і машына схавалася за паваротам, пакуль мой хлопец паспеў устаць з зямлі. Я адчула сябе няёмка. Аднак падумала, што хлопцы хацелі гуляць толькі са мной, каб не было майго партнёра. Сталася аднак найгоршае. Маладыя мужчыны неспадзявана скруцілі ў лес, выцягнулі мяне з машыны і згвалцілі — спачатку адзін, а пасля і другі. Ад'ехалі так хутка, як і прыехалі сюды. Я засталася адна ў чорным начным лесе. Уся акрываўленая і брудная, я неяк дацягнулася да бліжэйшага аўтобуснага прыпынка. Сэрца маё распірала крыўда і жаль да ўсяго свету, а асабліва да майго хлопца, які не выратаваў мяне ў бядзе. А я ж так упэўнена адчувала сябе, калі была разам з ім...

Але найгорш крыўдна мне, што мой хлопец ужо пару месяцаў у мяне не паяўляўся. Пэўна, цяпер я ўжо яму не падабаюся, бо „сапсаваная“. А дзе ж ён быў тады?.. Скажы, Сэрцайка, ці магу я разлічваць на тое, што ён вернецца?

**Ліда**

Ліда! Бадай, не вернецца ён. Вядома, што вынікла страшна непрыемная сітуацыя. Нехта, папершае, улез у яго інтымную справу і зрабіў тое, што павінен быў зрабіць ён. А паколькі ўсё адбылося ў яго прысутнасці, амаль на яго вачах, гэта магло абрыдзіць яму цябе. Але ёсць і другі бок медаля: ён стаў сведкам уласнай слабасці, свайго сораму перад табой, што не змог быць тваім абаронцам, і таму, думаю, са сваім болем і крыўдаю ты застанешся адна... Не, не вернецца ён да цябе!

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Мне прысніліся ў апошнім тыдні два вельмі цікавыя сны.

У першым сне мне прыснілася знаёмая цыганка. Быццам бы я падыйшла да яе і села побач з ёю. Яна нахілілася да мяне і пацалавала мяне ў губы, а я, быццам прадчуваючы нешта кепскае, схапіла яе за губы зубамі і ўкусіла.

У другім сне мне прысніўся нейкі вельмі прыгожы туфель. Быў ён на вельмі высокім абцасе. Гэты абцас быў не такі, як носяць сёння жанчыны, а нейкі шырокі і рэзьблены, быццам бы нейкі гістарычны, такі, як насілі калісьці царыцы. Туфель гэты быў белага колеру. Я чамусьці падумала, што нехта прывёз яго з Індыі (я сапраўды летам купіла індыйскія туфлі). Але ж раптам бачу, што верх гэтага туфля сплецены, быццам нейкі лапцік, і гэты лапцік здымаецца з таго п'едэсталу, якім быў высачэзны і прыгожы абцас. Я падумала, што без гэтага абцаса, толькі ў верхняй частцы гэтага туфля будзе мне зручней. На гэтым прачнулася.

Што могуць абазначаць мае сны?

**Наталля**

Наталля! Твае сны вельмі цікавыя, але не надта добрыя. Першы сон гаворыць аб нейкім ашуканстве. Аб гэтым сведчыць не толькі цыганка, але і яе пацалунак. Ты, відаць, абаронішся ад маны, бо ўкусіла тую цыганку.

Што датычыцца другога сну, дык той туфель прадвяшчае табе нейкае цікавае падарожжа. Аднак жа твае спадзяванні не будуць споўнены цалкам. Мела быць яно нейкае надзвычайнае (а мо багатае, як той гістарычны абцас), а застануцца адны скромныя лапцікі, у якіх хадзіць аднак на многа зручней.

**Астрон**




# Пячэнне

### ... МАСЛЯНАЕ

На цеста трэба ўзяць 25 дэкаў мукі, 10 дэкаў масла, 1/8 літра густой смятаны; для змазвання — паўяйка ці бялок; для пасыпання — 5 дэкаў крыштальнага цукру і 2 дэкі пасечаных арэхаў.

Масла пасячы з прасеянай мукой, дадаць смятану і хутка замясіць цеста. Раскатаць яго досыць тоўста і выразаць пячэнне шклянкай ці формачкай. Змазваць разбітым яйкам ці бялком, пасыпаць цукрам з арэхамі і класці на змазаную тлушчам бляшку. Пячы ў гарачай духоўцы. Пячэнне павінна мець залацісты колер.

### ... СА ШМАЛЬЦАМ ЦІ СКВАРКАМІ

На цеста трэба ўзяць паўкілаграма мукі, 10 дэкаў цукровай пудры, 20 дэкаў шмальцу ці светлых скварак, 1 жаўток, 1/4 лыжачкі міндальнага арамату; для пасыпання — 5 дэкаў цукровай пудры з ванілінам ці 1 лыжачку ванільнага цукру.

Падрыхтаваць цеста са шмальцам ці змеленымі скваркамі. Астудзіўшы яго ў халадзільніку, раскатаць і выразаць пячэнне. Класці на чыстую бляшку і ставіць у духоўку. Яшчэ гарачыя, пасыпаць цукровай пудрай з ванілінам ці ванільным цукрам.

### ... З БУЛЬБАЙ

На цеста трэба ўзяць 25 дэкаў мукі, 4 звараныя і працёртыя праз сіта бульбіны, 10 дэкаў масла або маргарыну, 10 дэкаў цукровай пудры, 1 яйка; для пасыпання — 3 дэкі цукровай пудры з ванілінам.

Усе прадукты замясіць разам, каб атрымалася гладкае цеста, адразу раскатаць і выразаць пячэнне. Пячы на бляce ў духоўцы. Гарачыя, пасыпаць цукровай пудрай з ванілінам.

**Гаспадыня**

Зорка
Старонка для дзяцей

## Калядкі

Абрусы чыстыя
Сцяліце на сталы,
Прыйдзе ў госці к нам
Гасподзь, Хрыстос малы.
*Прыпеў:*
Спявайце калядкі,
Спявайце калядкі,
Калядкі, калядкі
На радасць усёй зямлі.

Стаўляйце на сталы
Патравы хуценька,
Спяшае ў госці к нам
Маленька дзіцятка.
*Прыпеў.*
Спявайце калядкі
Для Бога самаго,
За то, што дараваў
Нам Сына сваяго.

Язэп Карпюк

*Аўтар сам і музыку да яе напісаў і сам вельмі прыгожа спявае. Калі б знайшліся каляднікі, якія хочуць навучыцца яе спяваць, можна скантактавацца з нашым аўтарам праз рэдакцыю.*

„Зорка"



*Набліжаецца Новы год па старому стылю. Ён, гэты стары дзядуля, дае пачатак нашым школьным навагоднім ёлкам. Ці ўсе дзеці ўжо навучыліся дэкламаваць прыгожыя вершы, каб пакazаць Дзеду Марозу, як мы ведаем родную мову?*

*Ці ўсе ўжо ведаюць, якія падарункі ад Дзеда хацелі б атрымаць? Стары Новы год ужо за дзвярыма. „Зорка" жадае ўсім дзецям добрай вясёлай ёлкі, адных пяцёрак за першае паўгоддзе і добрай прыгожай зімы на зімовыя канікулы, якіх вельмі чакаюць і дачакацца не могуцьусе дзеці.*

Міхась Губернатараў

### ГУДЗЕ БЕЛАЯ ЗАВЕЯ

Гудзе завея белая
Па сцежках і лясах,
Дзе восень колісь бегала,
Як рыжая ліса,
Дзе плавалі туманы
За сіняю гарой,
Дзе яблыкі крамяныя
Свяціліся наскрозь,
Дзе кошыкі рыпелі
З грыбамі на зары, —
Разгульваюць прывольна
Калючыя вятры.

Сняжынкі ў небе рояцца —
То не пчаліны гул:
Ідзе зіма ваколіцай
У белым кажуху.

Мікола Алтухоў

### ЯКОГА КОЛЕРУ МАРОЗ?

Якога колеру мароз?
Не рухайся, пастой —
І пабялеюць вушы, нос
І падбародак твой.

Не будзеш бегаць, як сябры,
Імчацца так, як я, —
І пасінееш у двары,
Як крыгі ручая.

Гульня не можа не сагрэць!
На санкі, дзетвара:
І шчокі будуць чырванець,
Як грудкі снегіра.

Заззялі вочы весялей,
Цвітуць усмешкі скрозь.
Шматфарбны мае для дзяцей
Аловак наш мароз!

## ЗАЙЦЫ

Зіма... За вокнамі белы пушысты снег. Пад кустом ядлоўцу прытуліліся да снегу два зайчыкі. Увечар яны падкраdaліся да нашага саду. На загумені браты — Янка і Кастусь — бачылі іх сляды. Заечыя сцежкі віхлялі і так і сяк, іх было процьма...

— Пачакайце, касавокія! Я вам сноп аўса вынясу, — сказаў падвечар бацька. — А тады пойдзем, хлопцы, ды паглядзім праз шчыліны ў клуні.

І вось увечары яны ціха ідуць, адзін за адным, па глыбокай і сёння не вельмі скрыпучай утаптанай за дзень сцежцы. Бацька ў дублёным кажусе, за бацькам — Янка, а ззаду Кастусь. Хлопцы завязалі на рот і нос цёплыя, пушыстыя шалікі. Бацька ціхенька адчыняе палавіну варот і, па таку, у цемры, яны асцярожна падыходзяць да задняй сцяны, дзе якраз найбольшая шчыліна.

— Ёсць. Ажно два, — шэпча бацька.

Першы падступіў Кастусь. На снезе — крыху воддаль ад сцяны, стаіць снапок, а два зайцы цярэбяць яго, стаўшы дыбка. Хлопчыкаў цяжка адарваць. Ім так хочацца глядзець, як прыгожыя звяркі смешна варушаць губамі. Яшчэ і яшчэ разок...

Калі на гасцінцы паказалася фурманка, зайцы адразу паставалі ў слупкі, каб паслухаць. А пасля — як ні паімчаць!

Янка Целушэцкі



*Зімовыя гульні на снезе.* *Фота К. Свідэрскага.*

Ніл Гілевіч

### СНЕЖНЫ ДЗЕД

Колькі шуму, колькі смеху:
Дзеда лепім мы са снегу!
Задала зіма работы —
Па двары кацілі ўтрох
І паставілі ля плоту.
Дзед стаіць, хоць і без ног.
Замест рук — уткнулі палкі,
Вочы — вугалю кавалкі,
Нос — чарэпак з гладыша,
Барада — шматок кудзелі,
А на лысіну надзелі
Кош замест капелюша.
Ну і дзед! Аддаць яму
Тут стаяць усю зіму.
Будзе ён тут па начах
Наганяць на зайцаў страх,
Каб не бегалі сюды
Сад псаваць наш малады!

### ЗІМОВАЕ ЗДАРЭННЕ

(з В. Паспелавай)

Чмыхнуў злосна снежны дзед
На дварэ ля хаты:
— Зноў па носе дзеўбануў
Верабей праклятый!
Так і круціцца наўкол,
Робіць, што захоча:
То мне сядзе на плячо,
То на шапку ўскочыць.
А найгорш, як дзюбне ў нос —
Ой, цярплю абразу!
Ну, як траплю памялом —
Дык заб'ю адразу!..

Хоць і добры снежны дзед,
Але смешны ўсё-ткі:
Як жа нос той не дзяўбаць,
Калі ён салодкі!

### МНЕ НІШТО НЕ СТРАШНА

(з Г. Весялінава)

Церушы, зіма, сняжок,
Сып на поле наша!
Я надзену кажушок —
Мне нішто не страшна.

Тата шапку мне прынёс
З мяккім цёплым пухам —
Нават самы злы мароз
Не ўшчыпне за вуха!

Рукавічкі загадзя
Мама мне звязала,
Каб за пальчыкі хаця
Сцюжа не кусала.

А цяпер старэйшы брат
Хораша і чынна
Мне майструе самакат
На жалезных шынах.

Дык жа сып сняжок, зіма,
Густа, без агрэхаў:
Нам без коўзанкі няма
Ні забаў, ні ўцехаў!





Так калядавалі ў мінулым годзе дзеці з раёна Сонечны Сток у Беластоку.
Фота Я. Чэрнякевіч.




## СТАРОНКІ НАШАЙ ГІСТОРЫІ ПАКЛОНІМСЯ Ж НІЗКА...

Бедная беларуская мова!

Хто з яе не смяяўся, не здзекваўся, хто з ёю не ваяваў!

І пачалося тое не ўчора. Яе не толькі забаранялі, выжывалі з устаноў, не давалі ёй развівацца, але і нішчылі напісанае на ёй. Даходзіла да жудасных выпадкаў — сын Радзівіла Чорнага Мікалай Сіротка плаціў больш як пяць тысяч злотых, каб знайсці выдадзеную бацькам Біблію і ўласнаручна яе спаліць. Паліла кнігі разам з людзьмі і інквізіцыя, якая на Беларусі пачала дзейнічаць амаль на паўстагоддзе раней, чым у Іспаніі. Так, першае публічнае масавае знішчэнне кніг адбылося ў 1581 годзе ў Вільні. Тады, напярэдадні Вялікадня, на плошчы ў самым цэнтры горада была выкапана вялізная яма, туды прывезены два вазы кніг, іх пераляжылі саломай і дрывамі, ксёндз Фердынанд Копецкі, акружаны езуітамі, сказаў прамову, і кнігі былі ўрачыста падпалены... Такія самыя знішчэнні кніг, ды і іншых дакументаў, адбыліся ў тыя гады амаль ва ўсіх беларускіх гарадах і вёсках...

Гэта тады пакінулі праваслаўе, перайшлі ў каталіцызм, выракліся сваёй мовы і свайго народа многія беларускія князі і паны: Сангушкі, Астроўскія, Заслаўскія, Чартарыскія, Хадкевічы, Валовічы, Война, Пацы, Халецкія, Гарнастаі, Баскі, Пацеі, Паўловічы, Калігоўскія, Глябовічы, Сапегі, Тышкевічы... Усіх і не пералічыш.

А колькі і чаго было вывезена ў свае краіны заваёўнікамі!

Але беларуская мова ўсё адно жыла. У размовах простых людзей, у песнях, казках, загадках, прыказках, прымаўках... Не давалі ёй месца ў палацах, яна ішла пад саламяныя стрэхі, гучала ў полі, у лесе, у лузе...

Пакланімся ж нізка, да самай зямлі, свайму народу, які збярог адзін з найдаражэйшых, найкаштоўнейшых скарбаў сваіх, перадаў яго нам у надзеі, што мы перададзім яго сваім дзецям, унукам, праўнукам...

**(З кнігі Б. Сачанкі „Сняцца сны аб Беларусі“)**

## Вясёлы куточак

### З ВУЧНЁЎСКІХ СШЫТКАЎ

„Кот надзьмуўся, але падыйшоў хлопчык і замяўкаў...“

„Ён сядзеў па стойцы „смірна“.

„Увесь дзень ішоў кароткачасовы дождж...“

„Ён выратаваў з полымя спачатку маленькую дзяўчынку, потым хлопчыка, а потым іншую мэблю...“

„Сабака лёг жыватом на спіну і соладка заснуў“.

„Убачыўшы мяне, сабака ўцешыўся і пачаў махаць заднім хвастом“.

## Пазнаёмімся

СССР, 279200, ССР Молдовы, г. Бэлць, бульвар Лариса, 12, кв. 45. Федоришиной Галине (7 клас).

СССР, 346523, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Баррикадная, 10, кв. 3. Бондаренко Лена (7 клас).

СССР, 346300, Ростовская обл., г. Каменск-Шахтинский, пер. Ермаковский, д. 24. Наташе Шпиль (15 год).

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі р-н, п/а Краснае, вул. Карбышэва. Дзячэнка Міша (5 клас).

Уладзімір Мацвеенка

## ЗАГАДКІ

### ЗАЙКІ-ЗАГАДАЙКІ

36

Кніжкамі набітыя,
На замкі закрытыя,
Паселі на плечы
Школьнай малечы.

37

Хлеб паспеў,
Яна напомніць:
— Жаць пара! Жаць пара!
Ноч прыйшла,
Яна ўспомніць:
— Спаць пара! Спаць пара!

38

Маці дзетак
Паслала да кветак,
Бо ў доміку мала
Салодкага стала.

39

Крышталёвыя каралі
Ранкам на траве ляжалі.
Я сабраць хацела ўдзень,
Глянула — няма нідзе.

40

Ноччу і ў туман міргае —
Караблям дапамагае.

Адказ на загадкі знойдзеш у наступным нумары.

Адказ на загадкі з папярэдняга нумара: 31. Серп. 32. Арэх. 33. Кошык з грыбамі. 34. Вавёрка. 35. Хамяк.



## Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорка“!**

Хачу Табе расказаць аб сваіх уражаннях з пабыўкі ў беларускім музеі.

14 лістапада 1990 года вучні нашай школы прыехалі ў Гайнаўку. Былі там вучні ад першага да восьмага класаў разам з настаўнікамі. У музеі мы глядзелі выстаўку „Жыве Беларусь“. Мы бачылі прыгожыя карціны слаўных беларусаў (М. Багдановіч, А. Пашкевіч-Цётка), пейзажы, нацюрморты. Карціны ўвасаблялі гісторыю і экалогію Беларусі. На гэтай выстаўцы былі таксама скульптуры, графіка і плакаты. Некалькі залаў было з прадметамі, якія людзі, беларусы, выкарыстоўвалі ў штодзённым жыцці.

У музеі можна было купіць зборнічкі беларускіх паэтаў — Алеся Барскага, Юркі Зубрыцкага.

Экспазіцыя ў музеі мне вельмі спадабалася. Думаю, што музей вельмі патрэбны, каб беларусы не забываліся аб сваіх традыцыях, сваім мінулым, аб культуры. Я ўпершыню магла пабачыць скарбы нашага народа. Цяпер я ведаю, што Беларусь жыве.

**Кася Дзмітрук, вуч. 8 класа, з Навакорніна**




**Янусь Малец**

### ЧАПА

**У сабакі Чапы**
**Штосьці стала з лапай**
**І сабака Чапа**
**Чапае на трох.**

**Ад такой няўдачы**
**Як тут не заплачаш,**
**Слёзы напаўняюць**
**Вочы, як гарох.**

**Чапа, Чапа, Чапа,**
**Што з тваёю лапай?**
**Бедны, бедны Чапа,**
**Бедны Чапулёк!**

**То скуголіць Чапа,**
**То сціскае ляпу**
**І, падняўшы лапу,**
**Жудасна глядзіць.**

**Тры дзяўчынкі плачуць**
**Несуцешным плачам:**
**Як жа, як жа Чапу**
**Лапу ім лячыць?**

**Чапа, Чапа, Чапа,**
**Што з тваёю лапай?**
**Бедны, бедны Чапа,**
**Бедны Чапулёк!**

### ЛІВЕНЬ

**Не прайсці і не праехаць —**
**Затапіла вуліцы,**
**І, здаецца, будуць вечнасць**
**Хмары ў небе муліцца,**
**І па стрэхах, па асфальце**
**Будзе дождж бруіцца,**
**Будзе доўга агрызацца**
**Гром на бліскавіцу.**



**АДГАДАНКА**

Спалучы кропкамі ад 1 да 35, тады ўбачыш, хто ездзіць на каньках.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

# КРЫЖАВАНКА

**УПОПЕРАК:** 4) пасыльны, 5) дванаццаты і апошні, 6) не з'ясі, калі заколеш вепрука, 11) з яго можаш зрабіць клін, калі замест І ўставіш Ё, 12) кандытарскі выраб са здобнага цеста, 13) вясной звініць у небе, 18) бегае па лёдзе, 20) колькасць, што змяшчаецца ў далоні са сціснутымі пальцамі, 22) гушкалка, 24) мужчынскі і нізкі, 26) адзенне або ўпрыгожанне, напр. ёлкі, 27) ходзіць над намі ўверх нагамі (найчасцей летам), 28) нормы паводзін, мараль.

**УНІЗ:** 1) адгадванне будучыні, 2) адрывістыя гукі, якія выклікаюцца сутаргавым скарачэннем дыяфрагмы, 3) мясцовасць на Беласточчыне ля граніцы з БССР, у якой нарадзіўся Сакрат Яновіч, 7) рака, якая ездзіць, 8) калі хто жанаты, напэўна не мае, 9) бегае за іголкай, 10) столькі, колькі трэба, 13) кумкае, 14) горад беларускага адраджэння ў пачатку XX стагоддзя, 15) верхняя кашуля, 16) апавяданне з нечаканым фіналам, 17) калісьці з ёю таксама хадзілі калядніні, 18) хросная маці твайго дзіцяці, 19) ссе карову, 21) месца пражывання анёлаў і святых, 23) гукні, а яно адгукнецца, 24) сын твайго бацькі, 25) адчуванне языком.

**„ЯДАНЬ"**

**Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.**

# НІЎКА

*— У яго нага пераломана ў двух месцах: каля кіёска з півам і ў бары „Падснежнік"...*

# Я НЕ РАЗУМЕЮ...

Я не разумею, колькі яшчэ будзе працягвацца перабудова, бо я не разумею, як магчыма набраць паскарэнне з застойнага часу і на гэтым самым паскарэнні перабудавацца.

Я не разумею светлага будучага пры чорным мінулым і туманным сапраўдным.

Я не разумею, як магчыма пры грамадскім плюралізме плюнуць на грамадскі рэалізм.

Я не разумею, як магчыма працаваць на два франты — для народа і для апарата, даўшы кожнаму сваё. Адным талоны, якія яшчэ трэба зарабіць, другім — грошы, якія яны не зарабілі.

Я не разумею, як магчыма выратоўваць кітоў, якія трапілі ў ледзяны палон, накіроўваць на выратаванне караблі і планава губіць дзіцячае жыццё ў Чарнобыльскай зоне.

Я не разумею, як магчыма пры гаспадарчым разліку адкапаць дзесьці 13 мільёнаў рублёў і закапаць іх назад, не міргнуўшы, пабудаваўшы пасёлак Майскі для ахвяр Чарнобыля.

Я не разумею, чаму ў нас у Беларусі няма мафіі. Так, яе ў нас няма, бо яна сама магутная — бюракратычная.

Я не разумею, як у наш час можна гаварыць праўду і толькі праўду, пісаць і спяваць пра гэта.

Я не разумею, як усё гэта без скарачэння надрукуе які-небудзь рэдактар?

**Віктар Байдакоў**
(„Вожык" № 21/90)

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132-3.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787, nr rachunku walutowego w rublach 5021-24325-151-6201.

**Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**
**Ганарары „Нівы" за III квартал 1990 г.:**

| | |
|---|---|
| **3592. Славамір Адамовіч (Мінск)** | **— 30400 зл.** |
| **3593. Васіль Феранц (Мінск)** | **— 3800 зл.** |
| **3594. Мікола Грышан (Раготна)** | **— 5700 зл.** |
| **3595. Уладзімір Крук (Мінск)** | **— 6650 зл.** |
| **3596. Янусь Малец (Мінск)** | **— 2850 зл.** |
| **3597. Аляксандр Маскалік (Баранавічы)** | **— 1900 зл.** |
| **3598. Вітаўт Мартыненка (Мінск)** | **— 3515 зл.** |
| **3599. Уладзімір Пац (Ольштын)** | **— 950 зл.** |
| **3600. Сямён Пацёмкін (Касцюкавічы)** | **— 3800 зл.** |
| **3601. Уладзімір Пучынскі (Мінск)** | **— 3800 зл.** |
| **3602. Антон Сасіноўскі (Мінск)** | **— 3800 зл.** |
| **3603. Вадзім Сугойдзь (Мінск)** | **— 4750 зл.** |

**Дзякуем.**

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej. 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.**

## ДЭФІЦЫТНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

Купляем цукар па талонах,
У строгіх нормах на душу,
А як жа быць з адэкалонам? —
Талоны выдайце прашу!

Як пагалюся, дык мікробы
Сягоння чым мне з твару
змыць?
Ад іх жа ўсякія хваробы
У арганізме могуць быць.
Гарэлка ўсё-такі зараза:
Стварыла розны дэфіцыт,
Падаражэла і адразу,
Як бот дзіравы, стаў наш быт.

Пачысціць шкло хацела
цешча —
Шклоачышчальнік папілі,
Лякарствы многія, дарэчы,
З аптэк п'янтосы падмялі.
Купіць хацеў фотапаперу —
І днём з агнём не адшукаць,
Напэўна, нейкая халера
Ёй стала дрожджы замяняць.
Хутчэй бы рынак
афармляўся —
Збаўленне наша ён ці смерць? —
Як да прылаўкаў я б спяшаўся,
Хоць не купіць, дык паглядзець!

**Янусь Малец**

*— Мой Божа! Рыбка за пяць фунтаў праглынула рыбку за сорак.*

* * *

Трое п'яных паўзуць па чыгуначных шпалах:
Першы:
— Ч-чорт пабяры, якія гэтыя сходы высокія.
Другі:
— Так, і поручні нізкія.
Трэці:
— Нічога, хлопцы, вось глядзіце, ліфт ідзе.


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар).

„Niwa"

ul. Suraska 1
15-950 Białystok, akr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty
I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1991 r. upływa 20 lutego 1991 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 10.400 zł + 6.500 zł za doręczenie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.500 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— styczeń — 6.000 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

III. Кошт падпіскі ў БССР:

— месячная —2 руб.
— квартальная — 6 руб.
— паўгадовая — 12 руб.
— гадовая — 24 руб.